КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 38 (310) ◂ 5 кастрычніка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ISSN 2218-2144



З НАГОДЫ

# ЗНАК БЯСКОНЦАСЦІ

**Праз два тыдні — 15 кастрычніка — міністры замежных спраў дзяржаў ЕС разгледзяць пытанне аб санкцыях у дачыненні да Беларусі. У заходнім кірунку цяпер з боку Беларусі назіраюцца спробы залагоджвання. І гэта ва ўмовах, калі Захад не прызнаў нашы вераснёўскія выбары ў парламент адпаведнымі міжнародным стандартам.**




На волю выйшлі віцебскі актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Сяргей Каваленка і анархіст Павел Сырамалотаў. Фігуры, скажам так, не ключавыя ў беларускаеўрапейскім гандлі, тым не менш свабода кожнага чалавека бясцэнная. Для ўпартага ў сваіх мантрах пра правы чалавека Захаду ёсць яшчэ 12 чалавек, якія, паводле крытэраў праваабаронцаў, знаходзяцца ў катэгорыі палітвязняў. Але нельга сказаць, што крок з вызваленнем двух чалавек зможа істотна паўплываць на рашэнне ЕС 15 кастрычніка, тым больш на тле яшчэ свежай інфармацыі пра парламенцкія выбары ў Беларусі.

Так, кіраўнік місіі назіральнікаў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) Антоніа Мілашоскі напярэдадні свайго ад'езду з Беларусі не ўтрымаўся ад саркастычнай ацэнкі ўмоў працы назіральнікаў. «З дыстанцыі сем метраў можна глядзець тэлевізар, але немагчыма ажыццяўляць паўнавартаснае назіранне за падлікам галасоў, — цытуе Мілашоскага БелаПАН. — Справа не ў адлегласці, а ў даверы — ці існуе поўны давер да тых назіральнікаў, якіх вы запрасілі назіраць за ходам выбарчай кампаніі, і ці гатовыя даць ім магчымасць прысутнічаць пры падліку галасоў, забяспечваючы, такім чынам, празрыстасць працэдуры. Але калі працэдура падліку галасоў з'яўляецца прывілеем выключна чальцоў выбарчай камісіі, а назіральнікі не могуць паўнавартасна за ёй сачыць, узнікаюць пэўныя сумневы».

Тым не менш ёсць рэверансы і ў бок Захаду, якія, калі немагчыма перамагчы ў яго хай сабе і не жорсткай, але прынцыповай пазіцыі, то хацелася б хоць крыху залагодзіць. Адзін з такіх дыпламатычных крокаў — дазвол апостальскаму нунцыю ў Беларусі Клаўдыё Гуджэроці сустрэцца з палітвязнямі. Алесь Бяляцкі пасля візіту дыпламатычнага прадстаўніка Ватыкану напісаў у лісце, што гэта было вялікай неспадзяванкай: «А самым вялікім сюрпрызам быў прыезд 25-га нунцыя. Вось што сабе і ўявіць не мог. Ён перадаў клопат пра нас, сядзельцаў, Папы. Як у свой час Ян Павел ІІ з'ездзіў на Кубу — і выпусцілі больш за 100 вязняў. Пасадзілі на самалёт і адправілі ў Канаду без іхняе згоды. Спадзяюся на больш удалы варыянт. Урэшце, тое, што нунцыя пусцілі да нас, гэта даволі аптымістычны знак. Ён спытаўся, што перадаць Папе. Я сказаў — падзяку за клопат пра нас. Але ў гэтай усёй гісторыі значна важней стварыць такую атмасферу, каб не было так, што адных выпусцяць, а новых набяруць. І пра гэта заўсёды трэба памятаць». У апошніх двух сказах з ліста Бяляцкага фактычна сфармулявана ўся праблема хвалепадобнай палітыкі сучаснай Беларусі — практыка гандлю палітвязнямі абсалютна непрадказальная і не мае якіх бы тое ні было гарантый завершанасці працэсу.

Таму якія б знакі на чарговы этап лібералізацыі (а не лібералізеца) не хацелася пабачыць аптымісту, яна папросту не можа мець месца. І ўдзел невыязднога міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Макея ў першай міністэрскай сустрэчы Форума малых дзяржаў Генеральнай Асамблеі ААН, яго кароткія сустрэчы (як паведамляе МЗС) з дзяржаўным сакратаром ЗША Хілары Клінтан, міністрамі замежных спраў Габона, Гамбіі, Люксембурга, Сінгапура і Тувалу, былым прэзідэнтам Фінляндыі, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру Марці Ахцісаары па сутнасці нічога не вырашаюць. Ніяк не паўплывае ў глабальным сэнсе на міжнародныя дачыненні і размарожванне ініцыятыў ЕС, як, напрыклад, «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю».

Для ЕС галоўнай прыкметай намеру той самай лібералізацыі будзе вызваленне і рэабілітацыя палітвязняў. Чаго ў поўным маштабе пакуль чакаць не даводзіцца. Хіба што, каб пакінуць ранейшы спіс санкцый у нязменным выглядзе, на свабоду да 15 кастрычніка можа выйсці яшчэ пара персон беларускага апазіцыйнага руху.

Што тычыцца беларускай апазіцыі і яе дзеяздольнасці ў цяперашніх умовах, то можна прывесці словы шведскага дыпламата Стэфана Эрыксана, які шмат гадоў адпрацаваў у Беларусі. «Апазіцыя не можа існаваць і займацца палітычнай дзейнасцю ва ўмовах такога аўтарытарнага рэжыму, як у Беларусі. Такія палітыкі павінны называцца дысідэнтамі, якімі яны і з'яўляюцца на самай справе», — падкрэсліў дыпламат, выступаючы на стакгольмскім форуме «Народ і абарона».

СУД

# АЛЕСЬ ПУШКІН НА ВОЛІ



Фота аўтара

Таццяна УЛАСЕНКА

**3 кастрычніка выйшаў на волю мастак Алесь Пушкін, які адбываў пакаранне ў Смаргонскім ізалятары.**

У мясцовай кавярні мастак прадставіў свой "турэмны альбом", у якім сярод іншых работ былі намаляваны эскізы помніка Расціславу Лапіцкаму, а таксама манумента-крыжа на Крапіўніцкім полі. На думку мастака, у Смаргоні абавязкова павінен быць усталяваны помнік герою антыкамуністычнага падполля Расціславу Лапіцкаму, і гэты помнік павінен стаяць альбо побач з помнікам Францішку Багушэвічу, альбо замест Леніна на плошчы.

— Наша дзяржава да гэтага часу застаецца неасталінскай, — распавёў Алесь Пушкін. — Усё стаяць «леніны», «марксы». А мяне рускамоўныя суддзі караюць за творчую акцыю, прысвечаную нацыянальнаму герою! І гэта пры тым, што па дакументах, афіцыйна, Расціслаў Лапіцкі прызнаны «бязвінна расстраляным»! Беларусь да гэтага часу не ўшанавала памяць рэпрэсаваных, забітых. Але я як творчы, свабодны чалавек мушу прыцягваць як мага болей увагі як да асобы Лапіцкага, так і да праблемы мовы.

Перад сустрэчай з журналістамі Алесь Пушкін надзеў на сябе партрэт Расціслава Лапіцкага і накіраваўся ў райвыканкам, каб паразмаўляць са старшынёй Мечыславам Гоем пра асобу беларускага героя. Але той якраз быў на абедзе. Тады мастак пабяцаў вярнуцца, прадбачліва запісаўшыся на прыём а 14.00.

Старшыня райвыканкама ўсё ж сустрэўся з мастаком.

— Старшыня размаўляў са мной па-руску. Але пра Лапіцкага ўжо ведаў! Помнік яму ставіць не збіраюцца, затое на грошы саюзнай дзяржавы ўжо адлілі некалькі скульптураў, прысвечаных Першай сусветнай вайне, і прапанавалі мне далучыцца да гэтага праекта, — падзяліўся падрабязнасцямі сустрэчы Алесь Пушкін.

Нагадаем, мастак быў затрыманы разам з калегамі Генадзем Драздовым, Валянцінам Варанішчам і грамадскім актывістам Уладзімерам Шульжыцкім у Смаргоні падчас творчай акцыі памяці кіраўніка антыкамуністычнага падполля Расціслава Лапіцкага. Генадзя Драздова суд аштрафаваў на 3 мільёны рублёў, Валянціна Варанішчу — на 1 мільён, смаргонскага актывіста Уладзімера Шульжыцкага — на 3 мільёны. Пушкін атрымаў 10 сутак.

СВАБОДА СЛОВА

# ЖУРНАЛІСТЫ НАВЕДАЛІ АРГАНІЗАЦЫЮ «РЭПАРЦЁРЫ БЕЗ МЕЖАЎ»

**«Рэпарцёры без межаў» вядомыя сваімі штогадовымі рэйтынгамі краін свету паводле індэксу свабоды СМІ. Але, як распавяла журналістам незалежных СМІ рэферэнт па пытаннях прэсы Ульрыке Груска, арганізацыя выконвае і іншыя функцыі, адна з якіх — падтрымка рэпрэсаваных журналістаў ва ўсім свеце.**

Што тычыцца індэкса свабоды СМІ, то, як вядома, па мінулагодніх дадзеных Беларусь займае ў ім 168-е месца. На распрацаванай арганізацыяй карце, на якой пры дапамозе розных колераў адлюстравана сітуацыя са свабодай СМІ, Беларусь — чорная. Такога ж колеру Іран, Судан, Куба, Паўночная Карэя, Кітай і яшчэ некалькі краін Азіі і Афрыкі, а з былога СССР — Узбекістан, Туркменістан, Азербайджан.

Ульрыке Груска адзначыла, што Беларусь «абваліліся» на самыя нізкія месцы ў рэйтынгу пасля снежня 2010 года. «Калі журналістаў б'юць, саджаюць у турмы — гэта вельмі пагаршае пазіцыю краіны, — падкрэсліла рэферэнт па пытаннях прэсы. — У Беларусі няма свабоднага тэлебачання, незалежным СМІ складана атрымаць інфармацыю, а анлайн-сайты іншым часам знаходзяцца пад атакамі», — заўважыла яна.

«Рэпарцёры без межаў» таксама складаюць спіс ворагаў прэсы. У ім, як паведаміла Ульрыке Груска, ёсць і прэзідэнт Беларусі.

Апрача гэтага, арганізацыя робіць класіфікацыю ворагаў інтэрнэту, фіксуе, у якіх краінах абмяжоўваўся доступ да тых ці іншых сайтаў.

**Служба маніторынгу ГА «БАЖ»**

ЭКАЛОГІЯ

# ЛАКАЛЬНЫ КАНФЛІКТ

Вольга ХВОІН

**Уладальнік аграсядзібы «Марцінова Гусь», кіраўнік эка-музею «Брама ў Налібокі» Алесь Белы асцерагаецца, што СВК Пяршаі незаконна асушыў вадасховішчы ў пасёлку Люцынка.**



Сядзіба «Марцінова Гусь» знаходзіцца акурат праз дарогу ад аб'екта скандалу — штучнай сажалкі. СВК «Пяршаі–2003» у 2011 годзе ўзяў у арэнду вадасховішчы ў Люцынцы, каб разводзіць рыбу. Валожынская раёнка «Працоўная слава» напрыканцы 2011 года пісала пра ініцыятыву СПК пазітыўна: «Ідэя разводзіць рыбу лётала ў паветры даўно. Тым больш у СВК мелася неабходная вытворчая база ў выглядзе даволі вялікіх і глыбокіх ставоў. Прывезеныя малькі карпа, таўсталобіка, белага амура без асаблівых цяжкасцяў прайшлі акліматызацыю на новым месцы, асвоіліся. І пачалі хутка набіраць вагу. Да восені асобныя экзэмпляры дасягнулі 4–5 кілаграмаў! За два месяцы вылаўлена амаль 8 тон рыбы. Свежая рыба тут жа адпраўляецца ў фірменныя магазіны СВК «Пяршаі–2003» і гандлёвыя кропкі райспажыўтаварыства».

Але сёлета (ужо ў ліпені) вадасховішча цалкам перасохла. На шматразовыя звароты Белага ў адміністрацыю СВК яму адказвалі, што вядуцца рамонтныя працы, тэрміны іх завяршэння не называліся. «Не даў вынікаў і мой пісьмовы зварот да старшыні Валожынскага райвыканкама, і ў раённую інспекцыю па ахове навакольнага асяроддзя. Я толькі атрымаў адказ, што на вадасховішчы ўжо вядуцца рамонтныя работы. Але якія «рамонтныя работы», калі нават людзей з рыдлёўкамі я тут не бачыў?» — абураецца Алесь Белы.

Цяпер пра вадасховішча нагадвае толькі патрэсканая зямля ды ракавіны малюскаў, дно былога возера зарастае травою. Вадасховішча было самым буйным вадаёмам у радыусе прыкладна 20–25 кіламетраў і служыла месцам гнездавання многіх відаў птушак, кажаноў, у тым ліку ахоўных. Яно ўключалася ва ўсе перспектыўныя планы развіцця Зялёных маршрутаў Валожынскага раёна і Налібоцкай пушчы. Алесь Белы гаворыць, што меў і свае віды на вадасховішча. Калі б яго прывялі ў нармальны стан, то можна было б аказваць гасцям платную паслугу. Цяпер жа насупраць сядзібы і ні возера, і ні балота.

Рыбную справу ў СВК «Пяршаі–2003» курыруе Уладзімір Круглік. Увага журналістаў да мясцовага вадасховішча, відавочна, спецыялісту не падабаецца. «Пішыце лепш пра людзей», — раіць Уладзімір Круглік. Але ўсё ж расказвае, што на вадасховішчы былі старыя збудаванні, іх неабходна было адрамантаваць, таму і асушылі вадаём. «Будзем ствараць рыбалоўную базу, якая будзе прыносіць прыбытак жыхарам вёскі. Я б таксама на месцы Белага падняў шум, разумею, што яму трэба турыстаў прыцягваць. Будуць у яго турысты, усё будзе», — супакойвае спецыяліст Круглік.

На пытанне, калі ж вадасховішча будзе гатовае да напаўнення вадою, прадстаўнік СВК «Пяршаі–2003» заявіў, што «можа ўжо праз тыдзень», бо частковa рамонт выкананы.

ЕЎРАСАЮЗ

# АМБАСАДАРЫ ПРАД'ЯВІЛІ ДЭМАРШ БЕЛАРУСІ

**2 кастрычніка, з нагоды Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання, які будзе адзначацца 10 кастрычніка, амбасадар Латвіі ў Беларусі разам з амбасадарамі Францыі і Італіі ў Беларусі і прадстаўнікамі Дэлегацыі Еўрасаюза ў Мінску прад'явілі дэмарш МЗС Беларусі, каб яшчэ раз звярнуць увагу беларускіх уладаў на праблему адмены смяротнага пакарання ў краіне.**




Дэмарш з'яўляецца сумесным рашэннем Дэлегацыі Еўрасаюза ў Мінску і акрэдытаваных у Мінску амбасадараў краін-удзельніц Еўрасаюза, і ягонае ўручэнне было даручанае кіраўніку дыпламатычнай місіі Латвіі.

Беларусь — адзіная краіна на еўрапейскім кантыненце, у якой дагэтуль выкарыстоўваецца смяротнае пакаранне. Еўрасаюз, уключаючы Латвію, неаднаразова заклікаў Беларусь увесці мараторый на смяротнае пакаранне.

**spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ВЫБРАЛІ? АТРЫМАЙЦЕ!

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Выбары прайшлі, і спраўджваюцца прагнозы экспертаў, што добра пасля выбараў не будзе нікому. Але ж ніхто не чакаў, што першымі непрыемнасці атрымаюць тыя, хто гэтыя выбары забяспечыў і правёў.**

На тыдні беларускі правадыр неаднаразова заявіў пра маштабнае «скарачэнне штату».

1 кастрычніка, прымаючы з дакладам міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча, Лукашэнка выказаў меркаванне, што «нам давядзецца добра скараціцца ў дзяржаўных структурах, думаю, працэнтаў недзе на 25–30». І ўдакладніў: «Унізе менш, уверсе больш, выдаліць непатрэбныя функцыі і значна потым павялічыць грашовае забеспячэнне і заработную плату дзяржслужачых. І адсюль — міліцыі, ваенным і гэтак далей. Я разумею, што мы адразу з такой задачай не справімся, але яе таксама трэба пачынаць».

Тое ж самае ён паўтарыў 2 кастрычніка на нарадзе па пытаннях удасканалення механізму гаспадарання ў аграпрамысловым комплексе краіны. «Я доўга вагаўся, але прыняў для сябе рашэнне — 25–30% кадраў у дзяржорганах мы скароцім. Яны нам проста не патрэбныя. Навошта мы сёння залішне глядзім па палях гэту ўборку? Хай губернатары, і нават не яны, а старшыні райвыканкамаў з кіраўнікамі гаспадарак забяспечваюць уборку. Але калі яны валяць і губяць грошы, якія ўкладзены ў зямлю, тут трэба саджаць у турму», — заявіў Лукашэнка.

Чым выкліканы такія выказванні? Верагодна, хранічным недахопам грошай. Усе эксперты адзначаюць, што скарачэнне апарата найперш выпадае на час эканамічнага крызісу. Так было і ў Еўропе нядаўна, і зараз дакацілася да нас, хаця неадныйчы сцвярджалася: крызісу ў Беларусі няма і быць не можа.

Але большасць экспертаў таксама сцвярджаюць, што скарачэнне апарата выкліча «эфект Паркінсона». Згодна з законамі функцыянавання бюракратыі Паркінсона, пры скарачэнні апарату колькасць чыноўнікаў і бюракратычных структур толькі павялічваецца.

Вось яскравы і першы прыклад гэтай «барацьбы з чыноўніцтвам». Каб скараціць дзяржапарат, створана яшчэ адна апаратная структура — камісія па рэфармаванні сістэмы чыноўніцтва. «Я сёння даручыў, — паведаміў Лукашэнка падчас сустрэчы з Шуневічам, — стварыць дзяржаўную камісію. Яе ўзначаліць кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (Андрэй Кабякоў). Памочнік кіраўніка дзяржавы Наталля Пяткевіч будзе ў яго намеснікам. Яны збяруць дзяржаўную камісію па рэфармаванні органаў дзяржаўнай улады».

Намер скараціць чыноўніцтва шляхам маштабных пасадак, калі яны «валяць і губяць грошы, якія ўкладзены ў зямлю», таксама не можа быць увасоблены ў жыццё — папросту чыноўнікі зоймуць усё ж значна менш затратныя, але ж бюджэтныя месцы ў турмах. Гэта таксама дзяржаўныя грошы. І да таго ж, у гэтым варыянце таксама «трэба больш золата», бо неабходна аплачваць працу следчых, міліцыянтаў, судоў, пракурораў, «вертухаяў» і гэтак далей. А ўлічваючы, што перш за ўсё эксперты, дый сам Лукашэнка, кажуць пра скарачэнні ў МУС і сілавых ведамствах, то якія тут могуць быць скарачэнні?

«Калі мы скароцімся, улады ў чыноўнікаў будзе значна больш. І мы спынім гэту блытаніну і шараханні спецыялістаў: «я тут не хачу, пайду туды». Не пойдзеш, пакуль не атрымаеш характарыстыку з месца працы. Вось і ўсё», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Зноў, калі чыноўнікам будзе патрэбная характарыстыка з месца працы, то дзе ў выпадку скарачэння ўзяць гэтае месца працы для, напрыклад, маладога спецыяліста? Атрымліваецца, як у анекдоце: «Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь можа быць толькі той, хто мае стаж працы прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь не менш за пяць год». А каб маладыя спецыялісты дзяржкіравання мелі патрэбны стаж і характарыстыкі, трэба не скарачаць, а павялічваць колькасць працоўных месцаў для чыноўнікаў.

Куды ні кінь, паўсюль клін. Сістэма завязла сама ў сабе. Выйсце з гэтай «завязкі» толькі адно: распускаць усялякія дзяржструктуры цэлымі «прадпрыемствамі». Напрыклад, эканомікі ў нас няма — распусціць Міністэрства эканомікі ў поўным складзе. Як нам добра жыць, нам распавядуць па беларускай тэлевізіі — можна поўнасцю звольніць Белстат. Функцыі кантролю за выкананнем закона, у тым ліку ў галіне СМІ, выконвае пракуратура, а прадпрыемствы з правам выдавецкай дзейнасці рэгіструюцца ў адзіным рэестры — разагнаць непатрэбнае Міністэрства інфармацыі. І, натуральна ж, разагнаць нікому не патрэбны парламент, а на яго месцы зрабіць шыкоўны гатэль да Чэмпіянату свету па хакеі.

Сапраўды, у выбары мы ўжо нагуляліся. Памятаеце, эксперты казалі пра эканамічны «бэмс» пасля выбараў? Вось яны і скончыліся — і «бэмс» надышоў. Грошы скончыліся, і мы не толькі думаем, як скараціць чыноўнікаў.

З кастрычніка праезд у грамадскім транспарце Мінска падаражэў на 200 рублёў. Зараз паездачка каштуе ўжо 1 700 рублёў замест 1 500. У Брэсцкай вобласці праезд падаражэў таксама — на 100 рублёў.

Канцэрн «Белнафтахім» 3 кастрычніка абвясціў аб чацвёртым сёлета павышэнні цэн на аўтамабільнае паліва. Падаражанне склала ад 4,5% да 6,3%. Бензін «Нармаль–80» цяпер каштуе 6 750 рублёў (+400), Аі–92 — 6 950 (+300), Аі–95 — 7 500 (+350), дызпаліва — 7 650 (+350). «Перагляд цэн на нафтапрадукты ажыццёўлены ў сувязі з ростам цаны на нафтавую сыравіну (на 19% у параўнанні з узроўнем чэрвеня 2012 года, калі праводзілася папярэдняя карэкціроўка цэн на нафтапрадукты), а таксама ў мэтах паэтапнага збліжэння цэн на тавары ў краінах Мытнага саюза і павышэння эфектыўнасці працы беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў для забеспячэння магчымасці далейшай мадэрнізацыі вытворчасці», — гаворыцца ў прэс-рэлізе канцэрна.

Пачаліся і праблемы з валютай. Асабліва гэта адчуваецца пакуль у малых мястэчках: знаёмая на тыдні па справах ездзіла па лініі Ракаў — Валожын, там на абменніках надпісы пра тое, што «валюты няма і не будзе».

У Беларусі з 4 кастрычніка павялічваюцца гранічныя максімальныя адпускныя цэны на свініну і ялавічыну патушную. На свініну патушную — да ўзроўню цяперашняй адпускной цаны на буйнакускавы мясакосны паўфабрыкат у выглядзе адрубоў са свініны, а таксама на ялавічыну патушную — на 30%.

Мінгарвыканкам накіраваў прапанову ў Мінэканоміі: дазвольце перастаць рэгуляваць кошты на некаторыя тавары. Прапануецца выкрасліць са спісу сацыяльна значных тавараў фарш, вараныя каўбасы, сасіскі, сардэлькі, алей сланечнікавы і рапсавы, каву, чай, сыры з каровінага малака, апельсіны, лімоны, бананы, яблыкі, дзіцячыя тавары. Калі прапанова будзе ўхвалена, то цэны на гэтыя тавары, паводле ацэнак спецыялістаў, вырастуць на 3–5%.

Знаёмая скардзілася: раней яе дысконтная картка гіпермаркета «Гіпа» дзейнічала на пакупкі больш за 50000 рублёў. Зараз «Гіпа» ўсталяваў новую мяжу дысконту — 200000 рублёў, і штодзённая зніжка 5% знікла. Гіпермаркету таксама патрэбны грошы.

А гэта мы яшчэ каштарыс за камуналку не атрымлівалі…

Вось вам і вынікі выбараў. За што змагаліся, тое і атрымалася.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ ЦВОР



Біскуп Аб'яднанай царквы хрысціян веры евангельскай Сяргей Цвор просіць дзяржаўныя органы правесці расследаванне неправавых дзеянняў адміністрацыі папраўчай калоніі №20 Мазыра ў дачыненні да зняволенага Дзмітрыя Дашкевіча, паведамляе БелаПАН. Адпаведны зварот святар накіраваў у Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Генеральную пракуратуру і дэпартамент выканання пакаранняў МУС.

«Зміцер Дашкевіч з'яўляецца чальцом царквы хрысціян веры евангельскай «Ян Прадвеснік» Мінска з 2006 года. Яго арышт і асуджэнне за нібыта здзейснены ім напад на двух мужчын выклікалі нямала пытанняў як непраўдападобнасцю такіх дзеянняў з боку верніка-хрысціяніна, так і дзіўным правядзеннем працэсу, калі пацярпелых ніхто не бачыў. Інфармацыя пра ціск, што аказваецца ў калоніі на Дашкевіча, выклікае нашу трывогу і заклапочанасць. Асабліва дзіўна, што начальнік калоніі Юрый Збароўскі, які называе сябе праваслаўным і па статусе закліканы адказваць за законнасць і праваparадак, дазваляе сабе абразлівае стаўленне да евангельскіх вернікаў», — напісаў Цвор.

Ён адзначыў, што дзякуючы дзейнасці евангельскіх хрысціян «многія асуджаныя пакідаюць сваё ранейшае злачыннае жыццё і становяцца нармальнымі сябрамі грамадства». «Але перш за ўсё пагрозы і абразы недапушчальныя ў дачыненні да любога чалавека, верніка або няверніка, бо кожны чалавек ёсць вобразам Божым і ўсялякая абраза і прыніжэнне чалавека ў нейкай меры абражаюць і Творцу. Нядзіўна, што абразы і пагрозы, у тым ліку і пагрозы згвалтавання, якія гучаць з вуснаў прадстаўнікоў адміністрацыі калоніі, падштурхнулі Дашкевіча на такую крайнюю форму пратэсту, як галадоўка», — адзначае Цвор.

Біскуп просіць правесці ўсебаковае расследаванне фактаў неправавых дзеянняў адміністрацыі мазырскай папраўчай калоніі №20 у дачыненні да Дашкевіча і прыняць меры па недапушчэнні падобных фактаў у будучыні. «А мы, у сваю чаргу, будзем маліцца ў памесных цэрквах, каб жыццё і здароўе Дзмітрыя Дашкевіча былі па-за небяспекаю», — рэзюмуе біскуп Сяргей Цвор.

### УЛАДЗІМІР САМСОНАЎ



Беларус Уладзімір Самсонаў стаў бронзавым прызёрам розыгрышу Кубка свету па настольным тэнісе. У матчы за 3-е месца спаборніцтваў, якія праходзілі ў брытанскім Ліверпулі, беларускі спартсмен выйграў у кітайскага тэнісіста Сю Сіня з лікам 4:2.

Уладзімір Самсонаў — шматразовы прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы па настольным тэнісе ў складзе зборнай Беларусі. У 2005 годзе Самсонаў рашэннем Міжнароднага алімпійскага камітэта быў удастоены прыза Fair play («Справядлівая гульня»). Падставай паслужыў эпізод фінальнага матчу «Еўра–Топ12» супраць расіяніна Аляксея Смірнова. У сёмай, вырашальнай, партыі пры ліку 13:13, калі на падачы Смірнова мячык праляцеў у міліметры ад краю стала, Самсонаў звярнуўся да суддзяў, каб тыя залічылі дотык. Але суддзі свайго рашэння не змянілі, і Самсонаў, выпраўляючы іх памылку, аддаў два апошнія балы суперніку. У выніку Аляксей Смірноў упершыню ў кар'еры стаў пераможцам «Еўра–Топ12».

Уладзімір Самсонаў — легенда беларускага тэнісу, але сёлетняя Алімпіяда ў Лондане не прынесла яму медаля: у 1/8 фіналу Уладзімір Самсонаў саступіў першай ракетцы свету кітайцу Чжан Цзыку.

### ЯГОР ЖЭШКА



Ад Беларусі на міжнародным дзіцячым песенным конкурсе «Еўрабачанне–2012» выступіць Ягор Жэшка з песняй «А морамора…». Ягору 12 гадоў, ён жыве і вучыцца ў Мінску, займаецца ў эстрадна-вакальнай студыі прадзюсарскага цэнтра «Залатыя галасы» пры арт-групе «Беларусы».

Прыхільнік Мікалая Баскава, Вітаса і Рыкі Марціна, гэты юны выканаўца ўжо прымаў удзел у міжнародным дзіцячым конкурсе «Трыксі» (Балгарыя, 2011), рэспубліканскім дзіцячым конкурсе «Песня для «Еўрабачання» (2011), нацыянальным конкурсе папулярнай песні «Беларуская пярліна» (2011), паўфінале конкурсу «Дзіцячая новая хваля» (Масква, 2012), міжнародным конкурсе «Кубак Еўропы» (Мінск, 2012).

У нацыянальным адборы ў гэтым годзе прынялі ўдзел дзесяць сольных выканаўцаў і музычных калектываў з Гомеля, Маладзечна, Мінска, Магілёва, Светлагорска і Мазыра. Фінальны этап быў традыцыйна арганізаваны па прынцыпе міжнароднага конкурсу — выступленні ўдзельнікаў ацэньвала прафесійнае журы і гледачы (50% на 50%).

У міжнародным дзіцячым песенным конкурсе «Еўрабачанне–2012» прымуць удзел артысты з 12 краін. Сярод канкурсантаў — Албанія, Арменія, Азербайджан, Беларусь, Бельгія, Грузія, Ізраіль, Малдова, Нідэрланды, Расія, Швецыя і Украіна.

СІСТЭМА АДУКАЦЫІ

# НАСТАЎНІК — НІ ЗАРПЛАТЫ, НІ ПАШАНЫ

Вольга ХВОІН

**У пачатку кастрычніка адзначаецца Дзень настаўніка. Афіцыйная статыстыка сведчыць, што цягам апошніх гадоў заробак (а гэта адзін са складнікаў прэстыжу прафесіі) педагогаў істотна скараціўся.**

«Трэба адзначыць, у гэтым годзе была шмат разоў павышаная заробатная плата для бюджэтнікаў, — распавёў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню настаўніка, кіраўнік беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Аляксандр Бойка. — На жаль, мы яшчэ не выйшлі на канец 2010 года. Тады было 427 долараў, цяпер — 332 долары. 95 долараў мы, на жаль, не дабіраем. Паспрабуем выкарыстоўваць унутраныя магчымасці галіны».

Бойка нагадаў, што ў краіне будзе праведзены эксперымент па персанальнаму фінансаванню школ. Для вывучэння вопыту Расіі была створана рабочая група, якая выязджала ў камандзіроўкі ў Маскву, Маскоўскую вобласць, на Смаленшчыну і Браншчыну. Таксама распрацаваны праект атэстацыі настаўнікаў, плануецца павялічыць разбежку аплаты па катэгорыях. «Сёння трэба плаціць вялікую зарплату за вышэйшы пілатаж у педагогіцы», — цытуе Бойку інфармагенцтва БелТА. Плануецца дадаткова заахвочваць педагогаў, якія маюць свае аўтарскія метадычныя распрацоўкі і «эфектыўна працуюць на ўзроўні краіны».

Яшчэ адна праблема школьнай адукацыі — дэфіцыт кадраў. «Пасля двух гадоў абавязковай адпрацоўкі ў 30 працэнтах выпадкаў малады спецыяліст пераходзіць на іншую працу», — патлумачыў міністр адукацыі Сяргей Маскевіч. Чыноўнік сцвярджае, што звычайна настаўнікі не проста сыходзяць з прафесіі, а мяняюць, напрыклад, вёску на горад.

Маскевіч сцвярджае, што ўсе ўстановы адукацыі забяспечаны кадрамі ў поўным аб'ёме. Ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі працуюць больш за 107 тысяч педагагічных работнікаў, з іх настаўнікаў-прадметнікаў — 94 295. Вышэйшую адукацыю маюць 91,9% настаўнікаў-прадметнікаў, вышэйшую і першую кваліфікацыйныя катэгорыі — 75,3%. З 1 верасня прыступілі да працы 6 300 маладых спецыялістаў, выпускнікоў устаноў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. «Хацелася б адзначыць, што ў гэтым годзе па нашых накіраваннях уладкаваліся на працу і 247 выпускнікоў, якія навучаліся за кошт уласных сродкаў», — сказаў міністр. Ён таксама падкрэсліў, што ў 2011 годзе былі накіраваны на працу 118 студэнтаў-платнікаў. Дарэчы, на студэнтаў, якія аплачвалі сваё навучанне і ўзялі накіраванне на працу, таксама распаўсюджваюцца гарантыі і кампенсацыі, прадугледжаныя заканадаўствам. Усяго прыступілі да працы больш за 95% маладых спецыялістаў ад накіраваных.

Закранаючы пытанне дэфіцыту кадраў у адукацыйнай сферы, міністр падкрэсліў, што «ў краіне ў асноўным не адчуваецца дэфіцыту педагагічных кадраў. Пры гэтым у некаторых школах прыцягнутыя да працы па асобных прадметах школьнага цыклу (англійская мова, матэматыка, фізіка, пачатковыя класы) педагогі, якія дасягнулі пенсійнага ўзросту, а таксама лепшыя студэнты 5 курса МДЛУ, БДПУ імя М.Танка».

Разам з тым Белстат апублікаваў звесткі, паводле якіх за першую палову 2012 года колькасць занятых у сферы адукацыі ў Беларусі скарацілася на 15 тысяч чалавек. Паўсюдна назіраецца дэфіцыт работнікаў дашкольных устаноў. Школьных настаўнікаў не хапае ў сельскай мясцовасці і раённых гарадах. У Мінску шмат вакантных месцаў настаўнікаў пачатковых класаў.

Апроч кадравага пытання міністр Мінадукацыі закрануў тэму магчымага ўвядзення на трэцяй ступені агульнай сярэдняй адукацыі (у 10–11 класе) профільнага навучання. Па словах міністра, аналіз адукацыйных праграм паказвае, што цяпер у старшай школе з 34 абавязковых вучэбных гадзін базавы кампанент складае 29, а 5 — факультатыўныя заняткі па прадметах. Вядома, усё залежыць ад школы, канкрэтнага настаўніка і ад таго, як гэтыя факультатывы наведваюць школьнікі, але аналіз рэальнай эфектыўнасці факультатыўных заняткаў у большасці школ невысокі, лічыць міністр.

«Узнікае пытанне — як павысіць эфектыўнасць? Магчыма, трэба вярнуць профільнае навучанне і развесці факультатывы па прадметах больш сур'ёзна. Пры гэтым трэба павысіць якасць прафадбору пасля базавай школы, — адзначыў Сяргей Маскевіч. — Ні для каго не сакрэт, што цяпер на старшую ступень школы можа патрапіць любы жадаючы (харашыст і той, хто вучыўся пасрэдна), бо старшая ступень фактычна з'яўляецца падрыхтоўкай да паступлення ў ВНУ. І проста сядзець за партай тут ужо нельга — будучы студэнт павінен быць скіраваны на навучанне, а таксама на тое, што ў ВНУ яму давядзецца па-сапраўднаму «пахаць» для атрымання ведаў, уменняў і навыкаў».

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКІЯ ВЫБАРЫ ВАЧЫМА СЯБРОЎ

Сяргей НІКАЛЮК




**Парламент як месца для дыскусій несумяшчальны з размеркавальнай сацыяльна-эканамічнай мадэллю.**

Пачну з цытаты. Аўтара, спадзяюся, можна не ўказваць — чытач і так пазнае. Гэта фрагмент з «кандыдацкай» праграмы 2001 года, раздзел «Палітычныя гарантыі»: *«Соблюдение основных конституционных прав и свобод человека: права на жизнь, права на труд, права на защиту от незаконного вмешательства в личную жизнь, права собственности»*. І ўсё… Вось і ўсе гарантыі ад гаранта Канстытуцыі. Ні табе свабоды сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання (артыкул 35), ні свабоды аб'яднанняў (артыкул 36).

За такую праграму, калі пагадзіцца з афіцыйнымі дадзенымі ЦВК, у 2001 годзе прагаласавала 75,65% выбарцаў. Па ёй мы жывём і сёння. Ці варта пасля гэтага дзівіцца вынікам чарговага галасавання? Дзясяткі тысяч чальцоў выбарчых камісій не з Марса да нас спусціліся, ім выпала шчасце нарадзіцца і жыць у геаграфічным цэнтры Еўропы, дзе такі сціплы набор палітычных гарантый распаўсюджваецца на ўсіх у роўнай ступені.

## Lecken sie mir Arsch

Каб далей уздымацца па лесвіцы азбукавых паліталагічных ісцін, мне спатрэбіцца дапамога Яраслава Гашака. У яго несмяротным рамане пра бравага салдата Швейка ёсць выдатная гісторыя пра студэнта-медыка Фрыдрыха Вельфера, якому па завяшчанні выплачвалася штогадовая стыпендыя да атрымання ім дыплома лекара. Стыпендыя разы ў чатыры была большая за заробак асістэнта ў лякарні, таму няцяжка здагадацца, што шчаслівы стыпендыят ператварыўся ў вечнага студэнта.

Спадчыннікі ледзь не звар'яцелі, аднак нічога не маглі зрабіць. Але тут распачалася вайна, і вечнаму студэнту па пошце было прапанавана здаць экзамен на «лекара ваеннага часу». Далей Гашак піша: «На ўсе пытанні ён даў стэрэатыпны адказ: «Lecken sie mir Arsch» («Пацалуйце мяне ў азадак» — ням.). Праз тры дні палкоўнік урачыста абвясціў, што Фрыдрых Вельфер атрымаў дыплом доктара медыцынскіх навук, які даўно заслужыў».

Ролю палкоўніка на вераснёвых парламенцкіх выбарах выпала выканаць генералу арміі, дырэктару Службы знешняй выведкі Расіі (2000–2007 гг.), а цяпер выканаўчаму сакратару СНД Сяргею Лебедзеву. Па традыцыі, што ўжо склалася, ён узначаліў місію назіральнікаў ад СНД. Высновы місіі, зноў жа згодна з традыцыяй, былі аднагалоснымі і, адпаведна, лёгка прадказальнымі. Тут варта працытаваць: «Падкрэсліваю, мы прыехалі сюды як сябры Беларусі, беларусаў, мы ведаем адзін аднаго лепш, чым заходнія назіральнікі, і таму бачым нават больш. І мы бачым тую ж самую карціну, што і заходнікі, але мы бачым яе вачыма сяброў. І калі мы бачым нейкія недахопы, а яны ёсць — хоць і неістотныя, і ні ў якім разе не ўплываюць на вынікі выбараў, — мы не драматызуем гэтыя недахопы, а працуем над тым, каб у наступны раз гэтых недахопаў не было».

У адказах студэнта-медыка на экзаменацыйныя пытанні, відавочна, таксама былі пэўныя недахопы, але іх, як распавёў нам Гашак, камісія прызнала неістотнымі, а таму яны не паўплывалі на канчатковы вынік. Былы дырэктар Службы знешняй выведкі Расіі, як і належыць прадстаўніку яго прафесіі, дапамог нам дакапацца да сапраўднай прычыны поспеху Фрыдрыха Вельфера. Уся справа ў тым, што экзаменацыйная камісія паглядзела на яго неардынарныя адказы «вачыма сяброў».

## Сустрэча двух самотнікаў

Тэма сяброўства, як і тэма кахання, — невычэрпная. Прывяду адказ беларускага боку ў выкананні АП (адзінага палітыка): *«Это была очень продуктивная встреча* (у Сочы з Пуціным) *в абсолютно доброжелательном ключе. Я уехал с настроением, что наконец-то мы поняли, что нам в этом мире друзей будет найти трудно. И нам надо держаться друг за друга, двум, скажем так, русским, по большому счету, народам, ибо будем биты поодиночке»*.

Няма беларускага народа, гэта калі па вялікім рахунку. А калі па рахунку маленькім, то, зноў жа, атрымліваецца два рускіх народа, толькі адзін са знакам якасці, а іншы без. Але што іх аб'ядноўвае, дык гэта цяжкасць знаходжання сяброў. Ужываючы адзін з улюбёных фразеалагічных выразаў АП, адважуся сцвярджаць, што такое прызнанне *«дорогого стоит»*.

Тут трэба зрабіць невялікі экскурс у гісторыю. З часоў Івана III у рускім народзе фармавалася ўсведамленне сваёй месіянскай ролі ў свеце. Першапачаткова месіянства рэалізоўвалася праз распаўсюд праваслаўя, а пасля 1917 года — камунізму. Без такіх ідэалагічных падпорак немагчыма было б будаўніцтва шматнацыянальнай імперыі на 1/6 частцы сушы, а пры камуністах — і за яе межамі. І вось прыехалі: рускаму народу ў *«этом мире друзей будет найти трудно»*. У такім жа становішчы апынуліся і талерантныя беларусы.

Але ці так гэта насамрэч? Калі абапірацца выключна на факты, то мы без цяжкасці знойдзем мноства пацверджанняў рацыі АП. Чаго толькі варты адзін прыклад з непрызнаннем АБСЕ вынікаў усіх выбарчых кампаній, якія прайшлі ў Беларусі з 1996 года. Паслухаеш адзін бок, паслухаеш іншы — і складаецца ўражанне, што мы з'яўляемся сведкамі дыялогу прадстаўнікоў двух сусветаў, якія вызнаюць дыяметральна процілеглыя сістэмы каштоўнасцяў, а каштоўнасці, як вядома, не могуць быць прадметам дыскусій.

Тут я вымушаны звярнуцца да сваёй улюбёнай тэмы — да тэмы расколу беларускага грамадства.

## У каго дэмакратыі больш?

У чарговы раз прывяду выдатны афарызм Станіслава Мініна: «Мова нашай улады ўладкавана так, каб служыць прыладай самавыкрыцця». Мне як аўтару тэкстаў вельмі пашанцавала: такой мовай старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, па-першае, валодае ў дасканаласці, па-другое, рэгулярна карыстаецца.

Вось як яна, напрыклад, тлумачыць адрозненні ў электаральнай актыўнасці люмпенізаванага насельніцтва і багатага класа ў **нас** і ў **іх**: «За мяжой на выбары ніколі не хадзілі люмпены, няўдачнікі, нізкааплатныя пласты насельніцтва, а багаты клас заўсёды быў досыць актыўны. Ён заўсёды зацікаўлены ў тым, хто прыйдзе на змену, ці не павялічацца падаткі».

У **нас** усё адбываецца наадварот: праз сваю дысцыплінаванасць галасуюць самыя бедныя (пенсіянеры, вяскоўцы). А так званыя «вышэйшыя пласты» насельніцтва ў электаральным плане не такія актыўныя. Яны «**ў нас** (выдзелена мной) вельмі шмат пачалі разважаць пра свае правы, зусім не думаючы пра свае абавязкі».

Старшыня ЦВК, такім чынам, дзеліць беларускі электарат на «большасць» і «меншасць». У якасці крытэру суаднясення з той ці іншай групай яна выкарыстоўвае асабістыя рэсурсы выбарцаў. Гэтак жа зраблю і я! Не ведаю, як у старшыні ЦВК, але асабіста ў мяне такое супадзенне поглядаў выклікае прыліў пазітыўных эмоцый.

Аднак вернемся да адназначаных вышэй адрозненняў у галасаванні ў **нас** і ў **іх**. За гэтымі адрозненнямі хаваецца адрозненне ў прыродзе дзяржаў і грамадстваў. Большасць у **іх** складаюць прадстаўнікі заможнага класа, іх інтарэсы і абслугоўвае ў першую чаргу дзяржава. Дэмакратыя, аднак. У гэтым сэнсе ў **нас** дэмакратыі не менш, чым у **іх**. Тут з АП не паспрачаешся. Але аснову нашай «большасці», калі скарыстацца тэрміналогіяй Ярмошынай, складаюць дысцыплінаваныя люмпены. Іх дысцыплінаванасць — прамое следства цэнтралізаванай раздачы пайкоў дзяржавай. Яна не здольная раздаваць мільёны пайкоў індывідуальна. Хто не хоча паслухмяна чакаць у чарзе — свабодны (ад пайкоў).

## Затое мы галасуем датэрмінова

«Большасці» ў **іх** неабходная дзяржава, здольная падтрымліваць адзіныя правілы гульні. Тыповы прадстаўнік такой «большасці» ўспрымае сябе ў якасці суб'екта. Ён акружаны іншымі суб'ектамі, а эфектыўна ўзаемадзейнічаць адзін з адным суб'екты здольныя толькі ў прававым полі. Важна адзначыць, што яны ж (суб'екты) гэта поле і фармуюць праз працэдуру выбараў заканадаўчых органаў улады.

Прадстаўнікі «большасці» ў **нас** на статус суб'ектаў, як правіла, не прэтэндуюць. Яны маюць патрэбу не ў адзіных правілах гульні, а ў «моцнай дзяржаве», здольнай у прымусовым парадку канфіскоўваць рэсурсы ў эканамічна актыўнай «меншасці» для далейшага іх пераразмеркавання «па справядлівасці». Заканадаўчы орган, калі ён будзе прадстаўляць інтарэсы ўсіх сацыяльных груп насельніцтва, у гэтым дапамагчы не ў стане. Ператварыўшыся ў месца для дыскусій, ён самім фактам свайго існавання разбурыць размеркавальную сацыяльна-эканамічную мадэль.

Але немагчыма і зусім адмовіцца ад выбараў. Адсюль паўстае неабходнасць імітацыі. Пра гэта я пісаў неаднаразова. Спіс імітацыйных палітычных рэжымаў немалы, і Беларусь у гэтым сэнсе не з'яўляецца ўнікальнай краінай.

Яшчэ раз працытую старшыню ЦВК: «Было выяўлена дастаткова шмат недахопаў. І паўстала шмат ідэй, як іх можна выправіць на заканадаўчым узроўні. Я бачу тыя шляхі, па якіх павінна ісці наша выбарчае заканадаўства далей. Але ЦВК — орган не заканатворчы. Гэтыя прапановы будуць прадстаўлены кіраўніку дзяржавы і, калі яны знойдуць падтрымку, потым будуць накіраваныя і ў парламент».

Пагадзіцеся, выдатнае прызнанне. ЦВК — не заканатворчы орган. А парламент? Зноў звернемся да тэксту Канстытуцыі: «Парламент — Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь — з'яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам Рэспублікі Беларусь» (артыкул 90). З пункту гледжання фармальнай логікі, прафесіяналам у пытаннях падліку галасоў і яўкі выбарцаў належала б свае прапановы наўпрост перадаць заканадаўцам, а не адцягваць кіраўніка дзяржавы ад працы.

У **іх** тамтэйшыя прадстаўнікі ЦВК так бы і зрабілі, але гэта ў **іх**. Што да нашых людзей, то яны, як вядома, на таксі ў булачную не ездзяць, і шмат чаго яшчэ не могуць сабе дазволіць. Затое яны ўмеюць галасаваць датэрмінова. Паводле НІСЭПД, на парламенцкіх выбарах у 2008 годзе датэрмінова прагаласавала 20% выбарцаў (амаль кожны трэці ад колькасці тых, хто браў удзел у галасаванні). Гэтым разам колькасць дысцыплінаваных выбарцаў, думаю, была не меншай.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# МАШЫНА З ХАЛАСТЫМ ХОДАМ

**На першы погляд, у нашай краіне няшмат чаго адбываецца. І дакладна можна сказаць, што не адбываецца таго, чаго не можа адбыцца пры любым, як кажуць, надвор'і.**

Прыкладам, нейкі час таму Лукашэнка пачаў кіраваць дзяржавай і грамадствам з дапамогай дырэктыў. Зараз ужо цяжка палічыць іх агульную колькасць і нумары па парадку, але можна дакладна сказаць: ні адна з іх не выканана. Ні тая, што забараняла п'яніцам піць на вытворчасці, ні тая, што дзеля эканоміі загадвала тапіць кацельныя толькі дровамі ды зніжаць энергаёмістасць вытворчасці ВУП. Але, безумоўна, самай няўдалай дырэктывай сталася прадпісанне па дэбюракратызацыі дзяржавы.

Мусіць, для большай эстэтычнай асалоды аўтары-складальнікі ўключылі ў гэты «лёсавызначальны» дакумент патрабаванне аб арганізацыі працы ўстаноў па прынцыпе «аднаго вакна». Зараз гэта дзіўнае акно глядзіць на наведвальнікаў шэрымі плямамі ўзораў бюракратычных даведак, якія ім трэба падрыхтаваць для падачы ў тое «адно вакно».

Што цікава, амаль адразу пасля падпісання дакумента было абвешчана пра поспехі ў рэалізацыі дырэктывы. Як гэта магло атрымацца, калі ўвесь апаратны строй дзяржавы атаясамліваецца з добрым або дрэнным бюракратычным парадкам, бюракратычнымі структурамі і чыноўнікамі? Услана кажучы, дзяржаўны лад ёсць бюракратычны лад, з якім грамадства пастаянна вядзе змаганне. Без гэтай барацьбы бюракраты паводзяць сябе быццам натуральныя бандыты.

Улада бюракрата ёсць уладай яго апарата. Чым ён мацнейшы з колькаснага боку, чым больш мае фінансавых і іншых матэрыяльных магчымасцяў і функцыянальных паўнамоцтваў, тым мацнейшай выглядае ўлада начальніка апарата. Што да кіраўніка дзяржавы, дык грамадскасць мае выпадак абсалютнага ўладарання над краінай, народам і асобамі, якое ўжо зрабілася празмерным. Гэта значыць, дасягнула верхняй рысы сваіх бюракратычных паўнамоцтваў, але магчымасці больш эфектыўна ўздзейнічаць на сітуацыю згубіла. З відавочнасцю гэта прадэманстравала апошняя выбарчая кампанія, калі ўлада рабіла ўсе магчымае і немагчымае, каб забяспечыць высокую яўку выбаршчыкаў (што раней не было складаным), а электарат збольшага паход да ўрнаў праігнараваў.



Дададзім, што ўся ліберальная крытыка камандна-адміністратыўнай эканомікі, адноўленай у Беларусі па лепшых савецкіх узорах, зыходзіць з таго, што ў такой эканоміцы прадпрыемствы не з'яўляюцца эканамічнымі суб'ектамі ў традыцыйным сэнсе гэтага слова. Яны з'яўляюцца бюракратычнымі інстытутамі і ў гэтай якасці ў лепшым выпадку толькі дэманструюць імкненне да павышэння эфектыўнасці і прыбытку. На самай жа справе яны ставяць мэты падвышэння бюджэтнага фінансавання, для чаго імкнуцца да пастаяннага пашырэння колькаснага складу і функцыянальных паўнамоцтваў уласных кантор.

І першае, і другое падвышае месца канторы ў вертыкальнай іерархіі і дазваляе рознымі спосабамі павялічваць матэрыяльныя выплаты кіраўнікам і персаналу.

Савецкая сістэма кіравання любой сферай была наскрозь бюракратычнай, і таму ясе чальцы на любым узроўні спакойна ўспрымалі чарговую кампанію дэбюракратызацыі, якую перыядычна абвяшчаў ці пленум, ці з'езд партыі. Звычайна ўсе планы па аптымізацыі штатнага раскладу заканчваліся адпраўкай некалькіх маладых жанчын у дэкрэтны адпачынак, часовым пераводам на іх пасады іншых работнікаў, а праз год-два начальства зноў дамагалася павялічэння штату.

Так яно ўсё і рухалася па аднойчы ўсталяванай каляіне, перыядычна трапляючы як тэма для абмеркавання на старонкі публіцыстычных або сатырычных артыкулаў.

Беларускі досвед скарачэння кадраў аказаўся такім жа, як і савецкі: размоваў на рубель — спраў на капейку.

А між тым, у краіне ёсць чым заняцца. Прынамсі, за год былі выкарыстаны магчымасці падвышэння экспарту, атрыманыя дзякуючы маштабнай падвойнай дэвальвацыі рубля. Справа ў тым, што дэвальвацыя (за кошт змяншэння валютнага ўтрымання рубля) скарачае ўнутраны попыт на тавары і паслугі. А вось магчымасці экспарцёраў толькі растуць. З гэтай нагоды пасля майскай дэвальвацыі 2011 года пачаўся апераджальны рост аб'ёмаў экспарту над імпартам. Прафіцыт знешняга гандлю захоўваўся на пачатку ацяплальнага сезона, а з зімы бягучага года пачаўся яго імклівы рост.

Шмат хто з афіцыйных асоб паспяшаўся назваць гэта чарговым беларускім цудам, супраць чаго выказаўся расійскі бок. На думку расіян, прафіцыт быў забяспечаны беларускім экспартам расійскіх нафтапрадуктаў, якія свядома не ўключаліся ў спіс падакцызных тавараў.

Усё быццам бы зразумела, але не вельмі. Бо хацелася б больш дакладна даведацца, каму ж на самай справе належалі тыя раставральнікі...

ЭКАЛОГІЯ



# СВІНАКОМПЛЕКС НА «БОЖАЕ ВОКА»

Вольга ХВОІН

**У Валожынскім раёне недалёка ад Налібоцкай пушчы пачалося будаўніцтва буйнога прадпрыемства па вытворчасці беконнай свініны.**



Георгій Медзюк

Мясцовыя актывісты і экалагічныя арганізацыі ўспрынялі гэту навіну з асцярогай. Бо буйны свінакомплекс на 110 тысяч галоў будзе размяшчацца недалёка ад Налібоцкай пушчы, а таксама ў месцы, дзе бяруць пачатак некалі буйных рэк, у іх ліку Іслач. Забудоўшчыкам з'яўляецца СТАА «Данпрод». Інжынер-гідратэхнік з Валожына Георгій Каржанеўскі актыўна выступае супраць будаўніцтва свінакомплексу, апелюе да парушэння заканадаўства і небяспекі для прыроды, калі аграмадная ферма пачне функцыянаваць.

Каржанеўскі рабіў запыт у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, яму прыйшоў адказ, што ўзгодненага праекту ачышчальных збудаванняў (яны будуць адказваць за ўтылізацыю адкідаў жыццядзейнасці свіней) не было прадстаўлена. Разам з тым на будаўнічай пляцоўцы ўжо паставілі каркасы чатырох фермаў.

«Мы выключна выканаўцы. Мясцовыя ўлады зацвердзілі гэты праект, і цяпер людзі прыходзяць да мяне і пытацца, чаго я тут будую... Але я такі ж выканаўца, як і вы. Вам трэба пісаць, а мне — будаваць, — тлумачыць Георгій Медзюк, намеснік галоўнага інжынера баранавіцкага будаўнічага трэста №25. — Я ездзіў глядзець падобны аб'ект пад Баранавічамі, туды вельмі складана патрапіць, бо ёсць адмысловыя санітарныя патрабаванні як да наведвальніка, так і да ўтрымання жывёлы. Мы былі на тэрыторыі тры гадзіны, дык вось — ніякага паху, смуроду я там не адчуваў».

Георгій Медзюк паўтарае, што за праектам усталяваны строгі кантроль, бо заказчыкі маюць адмысловыя патрабаванні да якасці збудаванняў, маўляў, дацкія свінні надта далікатныя, то нават падлога мусіць быць без ніводнай трэшчынкі. Праект не толькі маштабны, але і дарагі — усё абсталяванне, камунікацыі і нават дах прывязуць з Даніі. Першыя чатыры свінарнікі будаўнікі мусяць здаць ужо сёлета. Усяго комплекс будзе складацца з 16 свінарнікаў.

Вяртаючыся да тэмы «асаблівай тэрыторыі», Георгій Каржанеўскі паспрабаваў давесці будаўнікам, што пад будучым свінарнікам шмат крыніц, мясціну за гэта называлі нават «Божым вокам». Але будаўнікі аспрэчылі, што знялі каля трох метраў грунту і ніякіх крыніц там не знайшлі.

Да слова, у апошнія дні жніўня ў аграгарадку Пяршаі Валожынскага раёна адбылося грамадскае абмеркаванне справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе будучага свінакомплексу на 110 000 галоў. На абмеркаванне прыйшлі прадстаўнікі мясцовай улады, заказчыка праекта — СТАА «Данпрод», праектнага інстытута «Брэстбудпраект», ТАА НПФ «Экалогія» (рабілі ацэнку ўздзеяння праекту на навакольнае асяроддзе, паводле якога былі вызначаныя межы санітарнай ахоўнай зоны будучай свінафермы), з мясцовых жыхароў на слуханні прыйшлі толькі чатыры чалавекі.

Недалёка ад будучага свінакомплекса знаходзяцца вёскі Даўгулёўшчына і Канюшэўшчына. Мясцовыя жыхары — пераважна састарэлыя людзі — да грандыёзнага праекту ставяцца насцярожана. Маўляў, нічога добрага нам не будзе ад гэтай фермы, а працаваць і на сваёй ферме ўжо няма каму. З найбольш актыўных, праўда, арганізавалася ініцыятыўная група супраць будаўніцтва свінафермы, было сабрана 60 подпісаў. Жыхары звярталіся ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з пытаннем, ці быў ухвалены праект эколагамі, але 19 верасня прыйшоў адказ, у якім сцвярджаецца, што ў органы Мінпрыроды на дзяржаўную экалагічную экспертызу такой дакументацыі не паступала. «У сувязі з гэтым Мінскаму абласному камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя даручана з выездам на месца ацаніць сітуацыю і прыняць адпаведныя меры».

**Самыя буйныя свінагадоўчыя гаспадаркі краіны:**

Камянецкае ААТ «Белавежскі» — 97,7 тысячы галоў;

Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Заходні» — 90,7 тысячы галоў;

Саўгас-камбінат «Сож» — 90,2 тысячы галоў.

Нацыянальная Асацыяцыя свінаводаў (NPA) Вялікабрытаніі арганізавала кампанію ў падтрымку пратэсту супраць развіцця буйных свінагадоўчых карпарацый. NPA прапануе ўвесці строгія абмежаванні на гранічна дапушчальныя памер вытворчых свінагадоўчых прадпрыемстваў па ўсёй Еўропе. «NPA выступае супраць развіцця буйных свінагадоўчых карпарацый і велізарных свінагадоўчых ферм, паколькі маштабная вытворчасць можа нанесці шкоду навакольнаму асяроддзю і вельмі негатыўна адбіцца на дзейнасці малых фермерскіх гаспадарак, якія прыкладаюць масу намаганняў, каб захаваць экалагічнасць сваёй вытворчасці», — заяўляюць прадстаўнікі асацыяцыі.

У Германіі прадстаўнікі Партыі Зялёных прапануюць увесці наступныя абмежаванні: памеры жывёлагадоўчых і птушкагадоўчых гаспадарак павінны быць абмежаваныя, а максімальная ёмістасць гаспадарак не павінна перавышаць 30 000 адзінак птушкі, 1 500 свіней або 600 галоў буйной рагатай жывёлы.

## 14 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.20** Меладрама «Мачаха» (СССР).
**07.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**08.00** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.55** Тэлестужка АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.15** Культурныя людзі +.
**13.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм.
**15.55** Камедыйная меладрама «Паездка ў Амерыку» (ЗША).
**18.05** Каробка передач.
**18.35** Прыгодніцкі баявік «Місія невыканальная-3» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Фота за гадзіну» (ЗША).
**00.15** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Шматсерыйны фільм «Умовы кантракту».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Ганна Самохіна. Не нарадзіся прыгожай».
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рыцарскі турнір у Мірскім замку».
**18.00** Дэтэктыў «Падазрон».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.35** Фільм «Гіль».

### СТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.15** «Гарады, што спяваюць».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Жыць будзеце».
**09.50** «100 адсоткаў».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** «Гарады, што спяваюць».
**11.10** Фільм «Гадзіннік». ЗША-Вялікабрытанія, 2002 г.
**13.30** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Раба кахання». СССР, 1975 г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**18.30** «Гарады, што спяваюць».
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзённікі няні». ЗША, 2007 г.
**22.40** «Пякельная кухня».
**00.05** Фільм «Пекла». Францыя-Японія-Італія-Бельгія, 2005 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.55** Музычная камедыя «Не бойся, я з табой» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Рамантычная драма «Рамэа і Джульета» (Вялікабрытанія - Італія).
**16.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.50** Дэтэктыў «Справа Румянцава» (СССР).
**18.55** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Крымінальная драма «Марафонец» (ЗША).
**23.30** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** «Мая планета».
**07.15** Фільм «Надзея як сведчанне жыцця» (2007 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «Дом ля вялікай ракі».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Носіка ведае кожны. Памяці караля эпізоду».
**15.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.30** Фільм «Двое ў новай хаце».
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.20** Прэм'ера-2012. Тэлесерыял «Жыццё і лёс».
**23.05** 1/4 фіналу Першай лігі Міжнароднага звяза КВЗ.

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Ежа без правілаў».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Пагоня за ценем».
**15.05** Прэм'ера. «Вяселле ў падарунак!».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.05** «Бывае жа такое!».
**18.35** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.55** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**23.15** «Венік». Ток-шоў.
**00.15** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### EUROSPORT

**00.00** Ралі: Ралійная серыя IRC Сан-Рэма - Агляд.
**00.30** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў Азербайджан - Фінал.
**01.45** Тэніс: Турнір WTA. Лінц.
**09.30** Аўтагонкі.
**11.00** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія - Ірландыя - Германія.
**11.45** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія - Нідэрланды - Андора.
**12.45** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Жанчыны. 75кг.
**13.45** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. 105кг.
**15.00** Тэніс: Турнір WTA. Лінц - Фінал.
**17.00** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Жанчыны. +75кг.
**18.00** Цяжкая атлетыка: прэзідэнцкі кубак - Мужчыны. +105кг.
**20.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.00** Бокс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**07.40** «Школа на санцапёку», серыял.
**08.10** «Мой родны горад», серыял: 37 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.45** Відзьмо-невідзьмо.
**09.10** Зона «Свабоды».
**09.40** Еўропа сёння.
**10.05** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**10.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.50** Сальда (эканамічная праграма).
**11.05** Рэпартэр.
**11.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.10** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Мядзведзік Фантазік».
**12.40** «Школа на санцапёку», серыял: 17 серыя.
**13.05** «Мой родны горад», серыял.
**13.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.40** «Глыбокая вада», серыял: 5 серыя.
**14.25** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 2 серыя, «Гаіці».
**15.20** Назад у будучыню.
**15.30** МакраФон: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.00** «Дзеці славы», маст. фільм, 2006 г., Венгрыя–ЗША.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзік Фантазік».
**19.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Найвярнейшы жаўнер Гітлера».
**19.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.10** Дакументальная гадзіна: «Пекін ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.15** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.45** Форум (ток-шоу).
**22.30** Фільматэка майстроў: «Навука сну», маст. фільм, 2006 г., Францыя.
**00.10** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**00.45** «Бульбаны», мультсерыял.

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ВЫБАРЫ

# ЧОРНЫ ПІЯР

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашняя выбарчая кампанія ва Украіне не абышлася без выкарыстання «чорнага» піяру. Прапануем падборку самых кур'ёзных практык у гэтай галіне.**




У слоўніку чамусьці няма вызначэння тэрміну «чорны» піяр. Даводзіцца абмяжоўвацца сваімі бытавымі дэфініцыямі. Пад «чорным» піярам варта разумець распаўсюд несумленнай або кампраметуючай інфармацыі пра палітычнага канкурэнта.

Ва Украіне ўжо даўно задзейнічаны метады «чорнага» піяру. Часам «чорны» піяр нават рабіўся глабальнай тэмай усёй выбарчай кампаніі. Так адбывалася на папярэдніх выбарах у Вярхоўную Раду, калі праціўнікі аранжавых сцвярджалі, што Арсень Яцэнюк — адзін з лідараў дэмакратаў — мае яўрэйскае паходжанне. Дэмакраты, у сваю чаргу, пачалі маляваць у сваёй агітацыйнай прадукцыі сямейная дрэва Яцэнюкоў, даводзячы, што ён стоадсоткавы ўкраінец. У выніку ўсё гэта ператварылася ў сапраўдны фарс.

На гэтых выбарах «чорны» піяр таксама прысутнічае. Праўда, часам піяршчыкам і прыдумваць нічога не трэба. Палітыкі парадаксальным чынам умудраюцца дыскрэдытаваць самі сябе без знешняй дапамогі. Самы яскравы прыклад таго, як піяр трансфармуецца ў анты-піяр, адбыўся ў горадзе Славута. Тут афіцыйныя прадстаўнікі кандыдата-алігарха Сяргея Бурака раздалі людзям канверты, у якіх знаходзілася па 500 грыўняў (прыкладна 60 долараў). Аднак у выніку нейкай тэхнічнай памылкі гэтыя канверты былі залепленыя такім чынам, што шматлікія выбаршчыкі не змаглі іх адкрыць. У выніку людзі папросту разрывалі канверты разам з грашыма, каб пасля доўга праклінаць таго самага Бурака і яго падарункі.

Калі сам кандыдат не раздае нейкія кампраметуючыя рэчы, даводзіцца рабіць гэта за яго. Напрыклад, так дзейнічалі ў Харкаўскай вобласці. Тут дамы абыходзілі маладыя людзі нібы ад партыі «УДАР» і на радасць жыхарам уручалі торбы з кансервамі або з крупамі. Радасць выбаршчыкаў была нядоўгай. Прадукты аказаліся пратэрмінаваныя. Адпаведна, рэзка ўпала жаданне галасаваць за партыю Віктара Клічко «УДАР».

Часам стваральнікам «чорнага» піяру дастаткова папросту акцэнтаваць увагу электарату на правалах праціўніка. Пальму першынства тут трымаюць кандыдаты па мажарытарных акругах. Звычайна гэта бізнэсмэны, якія не жадаюць слухаць нікога і робяць тое, што ім здаецца правільным. Так, адзін з дэпутатаў ад Партыі рэгіёнаў пад Чаркасамі размясціў на сваім выбарчым участку на білбордах побач са сваёй фізіяноміяй камічны надпіс: «Люблю дзяцей — яны нашы суддзі». Што ён хацеў гэтым сказаць, зразумець цяжка. Як немагчыма ўявіць, і што робіцца ў галовах іншых кандыдатаў, якія вынайшлі наступныя слоганы: «Людзі — наша будучыня» або «Толькі баязлівец робіць дэпутата чалавекам».

Нонсэнс, аднак тут дапускаюць праколы не толькі малаадукаваныя ў палітыцы асобы. Моцна пракалоліся і піяршчыкі Партыі рэгіёнаў, якіх рэкрутуюць з самых вядомых паліталагічных кантор. З іх падачы ўсю Украіну ўпрыгожылі білбордамі з выявай шчаслівай украінскай сям'і, якая мусіла візуальна засведчыць дасягненні цяперашняга ўраду. У выніку аказалася, што адлюстраваныя на рэкламным здымку тата, мама і двое дзетак — амерыканцы. Іх выяву дызайнеры плакатаў Партыі рэгіёнаў папросту знайшлі ў інтэрнэце.

На той жа глебе пагарэлі і камуністы, якія размясцілі ў цэнтры сваіх праспектаў нейкую дарагую вілу на беразе мора. Малюнак суправаджаў слоган: «Вернем нашу ўласнасць». Сэнс рэкламнай кампаніі палягаў у тым, каб нацыяналізаваць шматлікія курортныя аб'екты, прыватызаваныя алігархамі. Цяпер вядома, што выяўлены комплекс знаходзіцца ў Грэцыі. Атрымліваецца, што партыя Сіманенкі збіраецца ваяваць з Грэцыяй...

Натуральна, апаненты бела-блакітных, камуністаў і згаданых вышэй кандыдатаў-мажарытаршчыкаў выкарыстоўваюць гэтыя хібы для кампраметацыі сваіх супернікаў. Напрыклад, аўтара слогана пра тое, што «Людзі — наша будучыня», абвясцілі іншапланецянінам.

Найчасцей, аднак, да «чорнага» піяру звяртаюцца ў Партыі рэгіёнаў. Так, нядаўна ў паштовыя скрыні жыхароў Данецкай вобласці закінулі 8-старонкавую штотыднёвую газету «Вольнае слова. Данбаса». Нумар складаўся з кампраметуючых матэрыялаў на адрас разнастайных палітычных партый і канкрэтных палітыкаў з партый «Батьківщина», блока Клічко, Кампартыі і, безумоўна, іх лідараў — Арсеня Яцэнюка, Віталя Клічко, Віктара Пінзеніка, Пятра Сіманенкі і г.д. У прыватнасці, на старонках газеты Яцэнюк і яго палітычная сіла абвінавачваюцца ў гандлі выбарчымі акругамі, Кампартыя і Сіманенка — у тым, што палітык распуснічае з маладой жонкай, вядзе разгульны лад жыцця і нясе галоўную адказнасць за развал СССР. Нарэшце, Клічко дасталася за нявдольнасць арганізаваць выбарчую кампанію і за слабае веданне англійскай мовы. Забыліся прасціця выдаўцы «Вольнага слова Данбаса» чамусьці выключна па лідарах Партыі рэгіёнаў, што яскрава кажа пра тое, хто замовіў наклад. Дарэчы, тыраж газеты складае мільён экзэмпляраў.

Пpыз за інавацыі ў «чорным» піяры таксама можна смела аддаць партыі Януковіча—Азарава. Так, штаб Партыі рэгіёнаў у Крыму своеасабліва забаўляе школьнікаў падчас прымусовых сустрэч іх бацькоў з бела-блакітнымі кандыдатамі. Дзецям прапануецца мячом збіць кеглі і банкі з налепленымі на іх фатаграфіямі палітычных апанентаў «рэгіяналаў» як мясцовага, так і рэспубліканскага ўзроўню.

Зрэшты, апаненты Партыі рэгіёнаў таксама не саромеюцца звяртацца да «чорнага» піяру. Так, у Адэскай вобласці, дзе ў Вярхоўную Раду ідзе кандыдат-рэгіянал Юрый Крук, супраць палітыка былі расклеены ўлёткі з надпісам «Юрий Крук — геев друг». Згадванне нетрадыцыйных сэксуальных меншасцяў — не адзіны прыём «чорнага» піяру, што быў ужыты супраць Крука. Яго апаненты расклеілі і іншыя ўлёткі, дзе нагадваецца пра тое, што да Партыі рэгіёнаў цяперашні кандыдат быў сябрам БЮТ, Партыі зялёных, НДП, Кампартыі і іншых палітычных сілаў, таму нельга верыць здрадніку.

Яшчэ адна фішка кампаніі — закідваць праціўніка яйкамі на публічных акцыях, а пасля выкладваць кампраметуючыя вывы ў інтэрнэт. Першымі такі спосаб асвоілі ў Луганскай вобласці.

Найбольш дзейная форма дыскрэдытацыі мела месца таксама пад Адэсай, дзе адзін з кандыдатаў арганізаваў мітынг, галоўным героем якога была свіння. На думку таго кандыдата, яна павінна была ўвасабляць яго галоўнага канкурэнта па акрузе. Аднак, па словах сведак, эфект быў адваротны. Публіка ахвотна фатаграфавалася з жывёлай.



Януковіча зноў закідалі яйкамі

Як бачым, часы, калі «чорны» піяр спрацоўваў, сапраўды паступова адыходзяць. Публіка насцярожана ставіцца да такіх метадаў, што можа сведчыць пра рост свядомасці выбаршчыкаў. На жаль, здаецца, гэта адзіны плюс цяперашніх выбараў. Усе іншыя хібы ўкраінскай палітыкі, і найперш палітычная карупцыя, засталіся.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Лукашэнка, якога называюць апошнім дыктатарам Еўропы і пазбавілі магчымасці наведаць летнія Алімпійскія гульні ў Лондане, ладзіць пастаянныя пераследы апазіцыі. У 2010 годзе 14 вядучых апазіцыянераў былі кінуты ў турмы, дзясяткі з'ехалі ў Польшчу, Літву, Вялікабрытанію з-за пагроз ганенняў. Улада кіраўніка нічым не абмежаваная: падчас «выбарчай кампаніі», якая завяршылася тыдзень таму, незалежныя назіральнікі зафіксавалі парушэнні падчас галасавання, а апазіцыйныя партыі байкатавалі «выбары», у выніку якіх усе месцы ў «парламенце» занялі прыхільнікі Лукашэнкі.

**«Newsweek» (ЗША)**

110 новаабраных «дэпутатаў» вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі ні хвіліны не сумняваюцца ў мудрасці і кіраўнічых здольнасцях свайго прэзідэнта. Аднак трэба мець незвычайную фантазію, каб і напраўду палічыць, што ўсе гэтыя фальсіфікацыі пайшлі на карысць беднай і даведзенай да поўнай галечы краіне. Для сучасных дэспатаў важна мець у краіне дэмакратычныя рытуалы і прыкметы легітымнасці сваёй улады. Іншая справа, што гэтыя «атрыбуты і рытуалы» — пустыя і нічога не значаць.

**«Die Welt» (Германія)**

Аляксандр Лукашэнка цяпер павінен выбіраць. З аднаго боку, беларускі бацька не жадае саступаць Захаду, палітыка якога за апошні час стала значна больш жорсткай. З іншага — Лукашэнка разумее, што эканамічна і палітычна ён вельмі слабы, каб у адзіночку супрацьстаяць ціску з боку Крамля. Ужо зімой Беларусь чакае новы раўнд перамоў на коштах на газ. Дамаўляцца ж з Масквой Лукашэнку нашмат лягчэй, калі ў яго ёсць актыўны дыялог з Захадам… І дзеля выратавання рэжыму Аляксандр Лукашэнка можа пайсці на гэты крок. Тым больш, што ладзіць яго беларускаму прэзідэнту не ўпершыню. Але загнаны ў кут Лукашэнка не можа схаваць свайго раздражнення і спрабуе выгандлеваць як мага больш саступак ад Еўрапейскага саюза.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Фінал выбарчай кампаніі ў парламент Беларусі адрадзіў у грамадстве трывожныя чаканні наконт дэвальвацыі. Улады абяцаюць утрымаць эканамічную стабільнасць, а эксперты папярэджваюць: максімум, што можна зрабіць, — адцягнуць эканамічную агонію да наступнага года. Традыцыйна Лукашэнка абвінаваціў у нагнятанні істэрыкі пятую калону. Пры гэтым беларускі прэзідэнт «забыўся», што недавер да ўлады спарадзілі клятвенна запэўненні яе прадстаўнікоў, у тым ліку і самога прэзідэнта, зробленыя напярэдадні мінулай трохразовай дэвальвацыі пра тое, што яе ні ў якім разе не будзе. З тых часоў насельніцтва, ледзь пачуўшы абяцанні пра падвышэнне зарплаты напярэдадні буйных электаральных кампаній, запасаецца доларамі і чакае дэвальвацыі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Аляксандр Лукашэнка вызваліў двух палітычных вязняў з 14. Гэта не толькі знак Брусэлю пра гатоўнасць да дыялогу, але і намёк Маскве на магчымы разварот на Захад з мэтай выбівання крэдытаў. «Жывы тавар» Мінск збірог менавіта для такога выпадку, калі з меркантыльных пазіцый трэба наладжваць адносіны з Захадам і ў той жа час паказаць Крамлю, што сітуацыя не безвыхадная. Беларусь мае патрэбу ў вонкавых запазычаннях, паколькі ў будучым годзе павінна пагасіць запазычанні ў 3 мільярда долараў на фоне зніжэння валютных паступленняў.

**«Deutche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. СТВАРАЕЦЦА ПАРТЫЯ ЦВЯРОЗНІКАЎ




Лібералізацыя заканадаўства наконт рэгістрацыі партый у Расіі, як вядома, выклікала ліхаманку стварэння новых партструктур. Не засталіся ў баку і працуйнікі зялёнага змея. Аматары ўвядзення сухога закона вырашылі заснаваць сваю партыю. Як паведамляе прэса, установчы з'езд партыі цвярознікаў, якая будзе называцца «Цвярозая Расія», адбудзецца ў адным з уральскіх гарадоў 1 снежня. Цяпер старшыня аргкамітэта, лекар-траўматолаг Валерый Мелехін ездзіць па розных рэгіёнах Расіі ў пошуках прыхільнікаў. Яго мэта — стварыць асяродкі партыі ў 42 рэгіёнах, як патрабуе цяперашні закон. Для будучай партыі ўжо напісана праграма, якая дастаткова левая. У праграме гаворыцца, што «Цвярозая Расія» збіраецца весці краіну па шляху «сацыял-патрыятызму». У партыі ёсць таксама свой гімн. Яго напісаў той жа Валерый Мелехін. Рэфрэн песні наступны: «Чтоб совесть народа воскресла/ И корни пустила свои,/ Поднимемся вместе за трезвость,/ Достойную каждой семьи».

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. ПАЛЯКІ ВЫЗНАЧЫЛАСЯ З ВЫБАРАМІ

У Вашынгтоне адбылася канферэнцыя польскай грамады ў ЗША, якую арганізаваў Амерыканска-польскі кансультацыйны савет (APAC). Удзельнікі мерапрыемства сфармулявалі сваю пазіцыю адносна выбараў прэзідэнта ЗША. Грамада палякаў адкрыта не падтрымала ніводнага з кандыдатаў, аднак заклікала як Міта Ромні, так і Барака Абаму спрыяць адмене віз для грамадзян Польшчы і садзейнічаць таму, каб амерыканцы польскага паходжання былі больш прадстаўленыя ў будучай прэзідэнцкай адміністрацыі. Нягледзячы на знешнюю партыйную нейтральнасць, амерыканскія палякі, здаецца, хутчэй падтрымаюць кандыдата ад рэспубліканцаў. Прынамсі таму, што Міт Ромні, у адрозненні ад Абамы, падкрэслена негатыўна ставіцца да геапалітычных амбіцый Расіі. Адзін з пунктаў платформы APAC заклікае Белы дом да таго, каб ЗША прымусілі блок NATO актыўна супрацьстаяць пагрозам з боку Масквы.

**Паводле польскай прэсы**

### СЕКТАР ГАЗА. ІСЛАМІСТЫ БАЛЕЮЦЬ ЗА МАДРЫДСКІ «РЭАЛ»

Кіраўніцтва вайскова-палітычнай арганізацыі ХАМАС, якая кантралюе Сектар Газа, забараніла трансляцыі на падкантрольнай тэрыторыі матчаў з удзелам славутага футбольнага клубу «Барселона». Так ісламісты адказалі на рашэнне клубнай адміністрацыі падараваць ізраільскаму грамадзяніну Гіладу Шаліту білет на матч «Барселона»—«Рэал». Гілад — былы ізраільскі жаўнер, які 5 гадоў правёў у палоне ХАМАС. Дарэчы, у палон ён трапіў ва ўзросце 14 гадоў, калі дапамагаў ізраільскім вайскоўцам. Цяпер былы палонны працуе як спартовы аглядальнік. Рэакцыя фундаменталістаў на філантрапічны жэст каталонцаў была вельмі дзіўнай, паколькі кіраўніцтва клубу адначасова запрасіла на матч дырэктара федэрацыі футболу Палесціны, які 17 гадоў правёў у ізраільскай турме. У дадатак у лініі барселонцы далі пропуск кіраўніку палесцінскай аўтаноміі Махмуду Абасу. Дарэчы, партыя апошняга дастаткова арыгінальна адрэагавала на выхадку ХАМАС. Кіруючая ў Палесціне партыя ФАТХ прапанавала ісламістам не выключаць трансляцыю матчу «Барселона»—«Рэал», а папросту падтрымліваць не «Барселону», а сталічны клуб.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. НАШТО ШАЎЧЭНКУ ШАЎЧЭНКА?



Жаданне вядомага экс-футбаліста Андрэя Шаўчэнкі, які зараз намагаецца прайсці ў парламент па спісах праўладнай партыі «Украіна — наперад», вывучыць украінскую мову мела адваротны эфект. Замест таго, каб спадабацца нацыяналістам і прыхільнікам украінскай культуры, Андрэй, здаецца, толькі разлазваў іх. Папулярныя нацыянальныя інтэрнэт-форумы называюць Шаўчэнку кан'юнктуршчыкам. На думку большасці, вывучаць мову Кабзара Шаўчэнка вырашыў не сам, а пад ціскам партыйнага кіраўніцтва, якое хацела б атрымаць таксама галасы украінскамоўнага электарату. Цікава, што рэйтынг партыі Наталлі Каралеўскай (кіраўнік партыі «Украіна — наперад») амаль не вырас пасля пераходу ў яе лагер футбольнай зоркі. Наадварот, фанаты не жадаюць галасаваць за спіс партыі «Украіна — наперад». Гэта часткова звязваюць з адным з нюансам трансляцый турніру Еўра–2012. Права на рэкламу падчас гульняў набыла менавіта Наталля Каралеўская. З'яўленне палітыка з навязлівымі заклікамі на экране ў разгар баталій выклікала сталую нелюбоў да яе з боку фанацкага асяроддзя.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

ТЭНДЭНЦЫЯ

# ТОЛЬКІ КАЛЯРОВЫЯ ПРЭЗІДЭНТЫ

*Алег НОВІКАЎ*



**На думку палітолагаў, усе ідзе да таго, што наступныя прэзідэнты Злучаных Штатаў будуць выключна «каляровымі».**

Пакуль прэзідэнт Джордж Буш-малодшы ўваходзіць у аналы гісторыі як змагар з тэрарызмам, ініцыятар непапулярнай інтэрвенцыі ў Ірак. Плюс як аўтар шматлікіх ляпаў — так званых «бушызмаў». Кшталту: «Я меў гонар пацiснуць руку адважнаму іракскаму грамадзяніну, якому Садам Хусейн адсек руку».

Між тым, магчыма, у будучым Буша-юніёра пачнуць таксама ўзгадваць як апошняга прэзідэнта ЗША з белай скурай. Дэмаграфічныя тэндэнцыі ў краіне дэманструюць, што нашчадкі англасаксаў, якія стварылі Злучаныя Штаты, цяпер упершыню ў гісторыі сталі нацменамі. Здарылася тое ўлетку гэтага года. Цяпер колькасць «каляровых» амерыканцаў складае большасць, а менавіта 50,4 працэнта насельніцтва ЗША.

Акрамя таго, сваю ролю адыграў фактар Абамы. Раней выхадцы з этнічных камун не лезлі ў вялікую палітыку, аддаючы перавагу бізнэсу. Феномен Абамы прымусіў шмат каго з юных нацменаў задумацца пра кар'еру палітыка. Нарэшце, самі грамады, дзякуючы перамозе Абамы, сталі больш палітызаванымі. Пачалі цікавіцца палітыкай, кандыдатамі, партыямі і іх праграмамі.

Гэтыя трэнды ўжо пачалі адлюстроўваць у палітычным жыцці ЗША. Перамагчы на выбарах федэральнага ўзроўню можна толькі з улікам інтарэсаў выбаршчыка з камун афраамерыканцаў, выхадцаў з Лацінскай Амерыкі, Азіі. Адпаведна, узнік запыт на «каляровых палітыкаў». Лічыцца з гэтым вымушаны нават самыя заўзятыя кансерватары. Добрым прыкладам з'яўляюцца апошні сход рэспубліканцаў у Тампе. Трэцім кандыдатам у прэзідэнты (і, адпаведна, у віцэ-прэзідэнты) да мікрафона выпусцілі Марка Рубіё — сенатара, этнічнага кубінца. Дарэчы, хадзілі плёткі, што менавіта Марка спачатку планавалі зрабіць кандыдатам у віцэ-прэзідэнты.

Што тады ўжо казаць пра партыю дэмакратаў, якія даўно робяць стаўку на нацмэнаў. Тут імкліва ўзыходзіць зорка Джуліяна Кастра, 37-гадовага мэра тэхаскага гораду Сан-Антоніё, які паходзіць з сям'і мексіканскіх імігрантаў.

Цікавая палітычная біяграфія тэхасца. З дзяцінства Кастра добра ведаў праблемы чыканас (так называюць у ЗША тых, хто эміграваў з Мексікі). Яго прыёмная маці — славутая абаронца правоў эмігрантаў з поўдня. Аднак з часам Джуліян пачаў цурацца іміджу мексіканскага патрыёта. Яго новае рэнаме — амерыканец памяркоўных прагрэсіўных поглядаў, якому не замінае яго мексіканскае паходжанне. Такі сінтэз прынёс яму, акрамя галасоў лацінас, сімпатыі белых выбаршчыкаў і дазволіў стаць мэрам сёмага па колькасці жыхароў гораду ў ЗША.

Цяпер палітыкум у чаканні наступных выбараў губернатара Тэхасу. Перамога на іх можа наблізіць Кастра да Белага дому. Праўда, зрабіць гэта будзе нялёгка. Тэхас — вотчына рэспубліканцаў.

Важным фактарам у прапагандзе Кастра як кандыдата ў губернатары, безумоўна, будзе прыклад суседняй Луізіяны. Гэта штат узначальвае 41-гадовы этнічны індус Бобі Джындал. Нягледзячы на свае карані, індус-губернатар лічыцца сваім у кампаніі кансерватараў. А правая прэса нават называе яго «другім Рэйганам». Джындал сапраўды пераплюнуў шмат каго ў гэтай галіне. Ён нават выступае супраць права на аборты для ахвяр згвалтаванняў і забараніў выкладанне ў школах штату тэорыі эвалюцыі Дарвіна. Яшчэ на мінулых выбарах кандыдат рэспубліканцаў Джон МакКейн думаў прызначыць Бобі кандыдатам у віцэ-прэзідэнты. Аднак у апошні момант абраў Сару Пэйлін.

Захапленне этнічнага індуса амерыканскім ладам жыцця папросту ўражвае. Ён яшчэ ў дзяцінстве адмовіўся ад індускага прозвішча, якое яму далі бацькі, і назваўся Бобі, каб быць падобным да каўбоя — героя аднаго з серыялаў. З часам здрадзіў Бобі і рэлігіі продкаў. Таемна ад бацькоў, якія практыкавалі індуізм, пачаў наведваць касцёл, а пасля ўвогуле прыняў каталіцкую веру.

Джындал зрабіў сабе імя тым, што пасля заканчэння Оксфарду ва ўзросце 24 гадоў узначаліў медычны дэпартамент у Луізіане і цалкам ачысціў яго ад карупцыі. Пасля таго займаў шэраг дзяржаўных пасад, і нават спрабаваў змагацца за пасаду губернатара, аднак прайграў. Апаненты-дэмакраты на выбарах, дарэчы, таксама гулялі на расісцкіх забабонах.

І тут на дапамогу Бобі прыйшло надвор'е. Пасля таго, як у 2005 годзе над Луізіянай праляцеў разбуральны ўраган Катрына, сталі бачныя ўсе правалы мясцовай адміністрацыі дэмакратаў. На наступных выбарах губернатара электарат быў гатовы галасаваць за любога альтэрнатыўнага палітыка з любым колерам скуры. І ў 2007 годзе Бобі перамог, каб пасля зарэкамендаваць сябе ў якасці аднаго з самых паспяховых губернатараў у краіне.

Практычны вопыт адміністратара, а таксама лаяльнасць з боку фундаменталістаў даюць шмат каму магчымасць спекуляваць наконт таго, што ў выпадку правалу Міта Ромні на выбарах–2012 менавіта індус з берагоў Місісіпі павядзе рэспубліканцаў у бітву за Белы дом у 2016 годзе.

У выпадку вылучэння луізіянскага губернатара ў прэзідэнты, дэмакраты абавязкова ўзгадаюць пра 62-гадовага Гары Лока — сына кітайскіх імігрантаў з Сіэтла. Зараз Гары выконвае функцыі пасла ЗША ў Пекіне, аднак уся краіна ведае яго як першага ў гісторыі губернатара штату кітайскага паходжання. Здарылася гэта ў 1996 годзе ў штаце Вашынгтон.

Да таго, як адправіцца ў Пекін, Гары кіраваў міністэрствам гандлю ў адміністрацыі Абамы. Цікава, што на гістарычнай радзіме з'яўленне новага пасла выклікала фурор не таму, што ён свабодна размаўляе па-кітайску. Проста мясцовыя камуністы былі шакаваныя тым, што палітык такога маштабу лятае ў самалётах эканамічным класам і сам носіць свой багаж.

Вось такі палітычны пасьянс складваецца па той бок Атлантыкі. Праўда, магчыма, трыумф каляровых палітыкаў, які прагназуецца на выбарах 2016 года, будзе перанесены на больш позні тэрмін. Такі варыянт магчымы, калі пра свае прэзідэнцкія амбіцыі зноў узгадае цяперашні дзяржаўны сакратар Хілары Клінтан. Апошнім часам яна збіралася пайсці ў адстаўку, аднак цяпер, быццам, бярэ свае словы назад. Калі жанчына стане кандыдатам у прэзідэнты, гэта, безумоўна, надасць кампаніі 2016 года гендэрнае адценне.

Аднак, у любым выпадку, гэта будзе толькі адтэрміноўка. Дэмаграфія ўпарта сведчыць, што гегемонія прадстаўнікоў белай расы ў амерыканскай палітыцы заканчваецца.

ЦІКАВА

# ХТО ВЫ, ДЖЭЙМС БОНД?

**У сувязі з 50-й гадавінай выхаду на экраны першага фільму пра Джэймса Бонда ў колах культуролагаў зноў ажывілася дыскусія наконт прычын яго папулярнасці.**



Джэймс Бонд у карціне «Доктар Но»

Гаворка пойдзе пра культурнае вымярэнне славутага шпіёна Яе Вялікасці, з якім глядач пазнаёміўся роўна 50 гадоў таму. Першы раз публіка сустрэлася з Джэймсам Бондам у карціне «Доктар Но». Стужка мела заўважны поспех і, безумоўна, заклала падмурак будучага поспеху ўсёй серыі. На сёння «Бандзіяна» прызнаная другой пасля «Гары Потэра» самай паспяховай фінансавай франшызай у кіно.

Тое, што місія, якую фармальна выконвае Джэймс Бонд — абарона геапалітычных інтарэсаў Захаду і Вялікабрытаніі, — не можа быць цікавай масаваму гледачу, відавочна ўсім. Хіба што такая канцэпцыя была папулярна ў савецкай прапагандзе. Тут бум вакол Бонда заўсёды лічылі прамым следствам антысавецкай істэрыкі на Захадзе. Добра, што СССР развальіўся да таго, як з'явіліся тэксты нейкага Джэрымі Блэка. Ён прааналізаваў антрапалагічны выгляд усіх ворагаў Джэймса Бонда і выказаў ідэю, што амаль усе яны нагадваць яўрэяў. Адсюль была зроблена выснова пра тое, што Джэймс Бонд — тайны нацыст.

Так ці інакш, аднак тое, што інтарэс да Бонда пабудаваны на антысаветызме, — яўна хлусня. Хаця б таму, што «вялікага і магутнага» даўно няма, а фільмы пра Бонда рэгулярна з'яўляюцца ў кінатэатрах. Акрамя таго, у другой палове 70-х гадоў, калі савецка-амерыканскія адносіны перажывалі перыяд разрадкі, Саветы ў фільмах пра прыгоды агента 007 выглядалі дастаткова пазітыўна. Напрыклад, фільм «Шпіён, які кахаў мяне» (1977), дзе па сюжэту Бонд наўпрост фліртуе з агенткай КДБ, на што заплюшчвае вочы Лубянка. Нягледзячы на добразычлівую трактоўку СССР, інтарэс аўдыторыі да прыгод Бонда напрыканцы 70-х усё роўна заставаўся стабільна высокім.

Увогуле, найбольш часта адказ на пытанне, чаму так папулярны Бонд, шукалі ў тэмах, звязаных з сэксам. Добрым прыкладам з'яўляюцца праца Тоні Бенета і Джанет Вулкот, якая называецца «Моманты Бонда». Аўтары матэрыялу паспрабавалі растлумачыць поспех Бонда ў аўдыторыі выпадковым супадзеннем у часе. На іх думку, нечакана нават для аўтараў фільму фігура Бонда ў «Доктары Но» аказалася вельмі блізкай трэндам у масавай псіхалогіі Захаду. Бонд стаў сімвалам сэксуальнай рэвалюцыі, якая набірала моц. Як тут ні згадаць, што перад тым, як з'явіцца на экранах, Бонд (праўда, як герой коміксаў) доўга фігураваў на старонках часопісу «Playboy».

Таксама варта ўзгадаць працу культуролага Тобі Мілера, якая красамоўна называецца «Пеніс Джэймса Бонда». Магістральная ідэя Тобі палягае ў тым, што ў аснову серыялу пакладзены сэксізм, які набывае крайнія формы. Мілер лічыць, што Джэйм Бонд — гэта латэнтная прапаганда «фалацэнтрызму».

З гэтым не згодная Сінція Баран, аўтар эсэ «Доктар Но: Як спалучыць брытанскі імперыялізм і расавую перавагу». Сінція перакананая, што тое, як Бонд выходзіць жывым з розных складаных сітуацый, — прапаганда расавай еўгенікі на карысць белай расы.

Сустракаюцца абсалютна фантастычныя тэорыі. Напрыклад, нехта Патрык О'Донэл лічыць, што любоў Бонда да машын і нейкіх гаджэтаў сведчыць пра яго пертаврэнне ў кібарга.

Нельга пакінуць па-за ўвагай версію пра тое, што герой Яна Флемінга сваім трыумфам абавязаны модзе на ўсё брытанскае, якую выклікаў у 60-я легендарны «Beatles». Што да саміх брытанцаў, то бясконцыя перамогі Бонда на экране быццам кампенсавалі ім страту каланіяльнай імперыі. Такім чынам, як піша культуролаг, Бонд выратаваў «імідж Брытаніі».

Міхаэль Дэнінг лічыць, што Бонд зачароўвае сваёй мадэллю спажывецтва. Сапраўды, герой кінасагі практыкуе геданізм: не ведае ні ў чым адмовы — ад шыкоўных дзяўчат да дарагіх машын. Гэта таксама спрыяе таму, каб разумець Бонда як сімвала мадэрнізму, сучаснасці, што падабаецца людзям.

А вось Мэры О'Град, наадварот, лічыць, што геданізм тут не пры чым. Проста «Бандзіяна», на яе думку, будуецца на тэорыі пра сусветную змову, арганізаваную вузкім колам нягоднікаў. Такі падыход блізкі шматлікім абывацелям, што, быццам, тлумачыць фурор бонд-франшызы.

Эдвард Каментайл, які апублікаваў кнігу «Культурная палітыка 007», наадварот, развівае тэзіс пра тое, што публіка палюбіла Бонда, паколькі пабачыла ў ім вобраз рэвалюцыянера, які таксама характэрны для 60-х гадоў. Сапраўды, амаль ва ўсіх карцінах Бонд выступае супраць іерархі, якая склалася ў яго ўстанове — брытанскай выведцы М6. Развіваючы гэтую тэорыю, Эдвард Каментайл робіць выснову, што фігура Джэймса Бонда — бунт супраць сістэмы і адначасова павага да яе — ідэальна пасуе карпаратыўнай культуры, якая пачала складацца ў той час на Захадзе.

З гэтай фішкай носіцца вельмі папулярны зараз левы славенскі філосаф Славой Жыдэк. Ён лічыць, нібы Бонд, па задуме аўтараў, даводзіць, што яго форма арганізацыі працы, пабудаваная на творчым падыходзе, больш эфектыўная за схемы, па якіх працуе савецкая разведка.

У гэтым плане, дарэчы, цікава згадаць апошні фільм «Бандзіяны». Гэты фільм крытыка назвала адкрыта антыкапіталістычным. Паколькі Бонд у ім змагаецца з імперыялістамі, якія пазбаўляюць абарыгенаў доступу да водных рэсурсаў. У гэтым плане цікавая іншая канцэпцыя, якая, наадварот, лічыць, што барацьба Бонда з вельмі іерархічнымі структурамі прапагандуе прынцып базіснай дэмакратыі і фактычнай сацыяльнай справядлівасці.

Вось такі далёка не поўны спіс адказаў на пытанне. Як бачым, версій на яго хапае. Каб разабрацца, хто на самай справе Джэйм Бонд — расіст, сацыяліст, офісны клерк, брытанскі імперыяліст, нацыст — давядзецца здымаць яшчэ мінімум 10 серый.

Я асабіста не супраць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МАРЫЯНА РАХОЙ



Прэм'ер Іспаніі праявіў сябе ці то як паслядоўны палітык, ці то як чалавек, далёкі ад рэальнасці. У Іспаніі крызіс, анархісты атакуюць будынак кангрэсу, а аўтаноміі патрабуюць незалежнасці. У гэты час Марыяна носіцца з ідэяй вяртання ў склад Іспаніі Гібралтар, які належыць Вялікабрытаніі з XVIII стагоддзя. Пляцоўкай для антыкаланіяльных маніфестацый стала трыбуна Генеральнай асамблеі ААН, у працы якой упершыню прыняў удзел іспанскі прэм'ер. Па яго словах, Лондан і Мадрыд павінны неадкладна пачаць дыялог наконт будучыні Гібралтар. Таксама Рахой выступіў з прапановай уключыць Іспанію ў клуб Савету бяспекі ААН, сыходзячы з важнай ролі, якую яго дзяржава адыгрывае ў Лацінскай Амерыцы і ў Паўночнай Афрыцы. Калі меркаваць па рэакцыі прэсы, заявы Рахоя былі ўспрынятыя іспанскім грамадствам як нешта экзатычнае. Тым больш, што ў той жа час да старых праблем дадалася новая — у інтэрв'ю амерыканскай газеце «New York Times» кароль Хуан-Карлас даў зразумець, што можа добраахвотна адмовіцца ад кароны.

### СЯРГЕЙ ШАЙГУ



Пра губернатара Маскоўскай вобласці, былога кіраўніка Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, этнічнага бурата Сяргея Шайгу на яго радзіме ў Туве склалі сапраўдны эпас. Былы галоўны выратавальнік Расіі паўстае ў творы волатам, здольным рабіць цуды. Эпас распавядае пра племя Кужэгет і пра дзіця па імені Сергек, што ў літаральным перакладзе з тувінскага азначае «бадзёры». Сергек па сюжэту адпраўляецца на выратаванне Масквы, куды яго заклікаюць іншыя «бугатыры» — расійскія прэзідэнты — «Путтуг могэ» і «Дзідзім Анаа талдуг». Прыезд супермена Шайгу ў Маскву апісваецца аўтарам так: «Аднойчы яму стала лёгка на душы, ён правёў рытуал дэвіг, пасля дзевяці крокаў узляцеў на неба,ператварыўшыся ў арла, даляцеў па прамянях ранішняга світанку да херым (так бураты называюць Крэмль) і спусціўся на зямлю чалавекам-волатам у чыгунных даспехах». Застаецца сказаць, што прыдумаў эпас супрацоўнік тувінскага ўніверсітэта Айбек Соскал. Па яго словах, Сяргей Шайгу — «сапраўдны герой тувінскага і ўсіх расійскіх народаў, а таксама шматлікіх іншых краін, дзе яго атрады ратавалі людзей». Пры ўсім пафасе слоў Айбека, застаецца прысмак кан'юнктуры. Раней аўтар прысвяціў падобны эпас расійскаму алігарху Рабіновічу, якога таксама адлюстраваў волатам.

### ДОНАЛЬД ТУСК

Прэм'ер Польшчы, напэўна, атрымаў маральнае задавальненне ад вынікаў суду ў Беластоку, дзе адбыўся вельмі незвычайны працэс. 35 чалавек судзілі за знявагу годнасці Дональда. «Зняважылі» годнасць кіраўніка польскага ўраду 17 мая мінулага года. Тады беластоцкія фанаты мясцовага футбольнага клубу «Jagiellonia» зладзілі ў цэнтры гораду несанкцыяныванны пікет супраць новых правіл для наведвальнікаў стадыёнаў. Пры гэтым яны скандавалі нешта накшталт: «Дональд — лох». Усё закончылася паліцэйскім хапуном. 43 чалавекі былі асуджаныя на месяцы да штрафаў памерам у 500 злотых. Супраць іншых завялі справу пра знявагу прэм'ера і судзілі толькі зараз. Адпаведна вердыкту, яны таксама павінны заплаціць штраф. Працэс у Беластоку прыцягнуў увагу грамадства не толькі з-за вялікай колькасці асуджаных па вельмі супярэчліваму артыкулу. Справа ў тым, што літаральна адначасова за знявагу гонару прэзідэнта Камароўскага быў асуджаны стваральнік сайту Antykomor.pl. Хельсінскі фонд правоў чалавека з гэтай нагоды зрабіў заяву, у якой выказаў заклапочанасць згаданымі працэсамі.



ПАМЯЦЬ

# ТРАГЕДЫЯ 1939-ГА ПРАЗ ЛЮДСКІЯ ЛЁСЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

Працяг. Пачатак у №37 (309).

**Чым больш пагружаюся ў вывучэнне гісторыі сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, тым больш жахаюся таму, з якой жорсткасцю там адбывалася саветызацыя. Рабаваліся замкі, касцёлы, цэрквы, шляхецкія фальваркі. Арыштоўваліся людзі, так ці інакш звязаныя з польскай дзяржаўнай інфраструктурай. Кепска прыйшлося тым, каго бальшавіцкая ўлада адносіла да памешчыкаў і капіталістаў. У гэтым артыкуле я прывяду некалькі рэальных гісторый, якія дэманструюць трагедыю грамадзян, якія аказаліся ў руках савецкіх улад пасля ўключэння Заходняй Беларусі ў склад СССР.**



Батальён КАП Сноў, 1934 г.

Аднымі з тых, хто стаў ахвярамі бесчалавечнай сталінскай сістэмы, былі прадстаўнікі знакамітага шляхецкага роду Гартынгаў са Снову. У 1854 годзе ўласнікам сноўскага маёнтку стаў барон Густаў Гартынг. У 1925 годзе яго сын Генрых прадаў польскай дзяржаве частку зямельнай маёмасці і стары палац Рдултоўскіх. У 1929-м там быў праведзены капітальны рамонт пад кіраўніцтвам архітэктара Тадэвуша Навакоўскага. Пасля гэтага ў будынку размясцілася сядзіба Корпусу аховы памежжа. Там знаходзіліся кватэры афіцэраў КАП, канцылярыя, афіцэрскі клуб. Каля палацу пабудавалі казармы для батальёну польскіх памежнікаў.

Сям'я Гартынгаў пераехала ў свой асабняк, які знаходзіўся недалёка ад палацу. Густаў Гартынг меў чатырох сыноў — Марцэлія, Рэнэ, Міхала і Антонія. Першы з іх нарадзіўся ў 1904 годзе ў Ніцы, атрымаў добрую адукацыю, працаваў эканамістам. Вайсковую службу праходзіў у 3-м танкавым палку Войска Польскага ў званні падпаручніка. Па ўспамінах праўнучкі Марцэлія Гартынга, якая зараз жыве ў Францыі, Рэнэ жыў у сваім маёнтку непадалёку ад Снова, Антоні — у 30-ці кіламетрах ад Нясвіжа, а Міхал памёр у дзяцінстве. На жаль, успаміны пра жыццё Гартынгаў у 1930-х гадах не захаваліся. Аднак здымкі, на якіх мы бачым легкавыя аўтамабілі, добра апранутых людзей, сведчаць пра тое, што Гартынгі не бедавалі.



Дачка Марцэлія Гартынга



Сям'я Гартынгаў, 1937 г.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Яшчэ ў сакавіку 1939-га, падчас скрытай мабілізацыі, батальён КАП «Сноў» быў перакінуты на Захад Польшчы і разам з іншымі памежнымі адзінкамі ўвайшоў у склад Арміі Кракаў. У «усходніх крэсах» засталіся тылавыя часткі і мабілізацыйныя цэнтры. Хутчэй за ўсё, у адной з такіх тылавых вайсковых адзінак, размешчаных у Снове, служыў і Марцэлі Гартынг. Чырвоная Армія ўвайшла ў Сноў 17 верасня 1939 года. Адразу ж пачаліся арышты польскіх паліцэйскіх і афіцэраў. У рукі НКУС трапіў і Марцэлі. Праз некалькі дзён яго жонка Станіслава разам з двума дзецьмі спешна пакінула Сноў і выехала ў акупаваную нацыстамі Варшаву. Разам з іншымі арыштаванымі польскімі афіцэрамі і паліцэйскімі Марцэлі Гартынг трапіў у Казельскі лагер для польскіх ваеннапалонных. У красавіку 1940 года ён быў расстраляны ў Катыні. Як адзначае кіраўнік польскай камісіі расійскай праваабарончай арганізацыі «Мемарыял» Аляксандр Гур'янаў, прозвішча падпаручніка Марцэлія Гартынга значыцца ў адным з прадпісанняў Упраўлення НКУС па справах ваеннапалонных начальніку Казельскага лагеру аб адпраўцы чарговай групы ваеннапалонных у распараджэнне начальніка ўпраўлення НКУС па Смаленскай вобласці. Па сутнасці гэта былі расстрэльныя спісы. Вось так скончылася жыццё аднаго з уладальнікаў Сноўскага маёнтка. У сваю чаргу, Рэнэ Гартынг прапаў без вестак пасля 17 верасня 1939 года. Хутчэй за ўсё, ён быў забіты людзьмі з чырвонымі апаскамі на руках. Толькі Антонію пашчасціла ўратавацца і выехаць з ахопленай вайной Еўропы ў Аргенціну.

Зараз прадстаўнікі роду Гартынгаў жывуць у розных



Канстанцін Рдултоўскі

краінах. У Францыі, Польшчы, Аргенціне. Але ўсе яны ў думках вяртаюцца ў Беларусь. У маленькае мястэчка Сноў. Туды, дзе было іх радавае гняздо.

Не менш трагічная гісторыя і ў яшчэ аднаго ўплывовага заходнебеларускага землеўласніка Канстанціна Рдултоўскага. Увогуле, гэты чалавек з'яўляецца знакавай фігурай для Заходняй Беларусі. Беларускі шляхціц нарадзіўся ў 1880 годзе ў маёнтку Чарнігаў-Горны ў Навагрудчыне. Скончыў гімназію ў Мінску і атрымаў вышэйшую адукацыю ў Варшаўскай палітэхніцы. У 1919–1920 гадах Рдултоўскі быў Баранавіцкім і Стаўбцоўскім павятовым старастам. Займаўся развіццём сельскай гаспадаркі на заходнебеларускіх землях. У 1928 годзе землеўласнік быў абраны дэпутатам Сейма II Рэчы Паспалітай. З 1930 па 1938 гады быў сенатарам ад Навагрудчыны ў вышэйшай палаце польскага парламента. У гэты ж час Рдултоўскі ўзначальваў Віленскую сельскагаспадарчую палату. 4 кастрычніка 1939 года ён быў арыштаваны НКУС і змешчаны ў турму ў Баранавічах. У красавіку 1940 года, у адпаведнасці з загадам Лаўрэнція Берыі № 00350 «Аб разгрузцы турмаў НКУС УССР і БССР», землеўласніка з Навагрудчыны этапавалі ў Мінск.

У варшаўскім «Усходнім архіве» даследчыцкага цэнтра «Карта» я знайшоў дзённік Канстанціна Рдултоўскага. Звернемся да гэтага дакумента: «1 красавіка 1940 года каля 10–11 гадзін раніцы мы прыехалі ў Мінск. Нас вывелі з вагонаў і пасадзілі ў грузавыя машыны. Праехалі міма помніка Леніну, каля касцёла Св. Сымона і Алены, пабудаванага калісьці мінскім шляхціцам Эдвардам Вайніловічам, грузавік рэзка павярнуў налева, і неўзабаве мы апынуліся каля старой турмы. Сярод тых, хто ехаў са мной, было шмат знаёмых з Гродна і Ваўкавыска. Нас правялі на апошні паверх, і 120 чалавек змясцілі ў адну камеру. Людзі думалі, што гэта на час. Аказалася, што назаўсёды. На кожнага чалавека прыходзілася прыкладна 40 см вольнага месца. Было горача, не хапала паветра. Пазней нас сталі выводзіць на шпацыры. Кармілі хлебам і вадой з нейкай травой. Наглядчыкі называлі гэта піўо «гарбатай».

Сярод зняволеных было шмат землеўласнікаў, асаднікаў, паліцэйскіх, афіцэраў Войска Польскага. Людзі казалі, што ў суседняй камеры сядзелі некалькі польскіх генералаў. Пад нашай камерай знаходзіліся кабінеты следчых, дзе арыштаваных дапытвалі. Часта адтуль даносіліся чалавечыя крыкі. Некаторыя са зняволеных не вытрымлівалі пабояў, гублялі розум. Часта арыштантаў выклікалі з камеры «з рэчамі». Больш мы гэтых людзей не бачылі. На іх месца прыводзілі новых зняволеных.

Праз два тыдні пасля знаходжання ў мінскай турме мне зачыталі прысуд. За тое, што я быў землеўласнікам і «эксплуатаваў» 111 чалавек, мяне асудзілі на 8 гадоў папраўчых работ».

28 красавіка 1940 года Канстанцін Рдултоўскі быў асуджаны па артыкуле 74 УК БССР за контррэвалюцыйную дзейнасць і высланы ў Карагандзінскі лагер. Аднак сенатару з Заходняй Беларусі ў нейкім сэнсе пашанцавала. 30 жніўня 1941 года яго вызвалілі, і хутка разам з іншымі суайчыннікамі ён аказаўся ў Іране.

На жаль, не ўсе вераснёўскія гісторыі заканчваліся «хэпі-эндам». Часцей польскія грамадзяне, арыштаваныя ў Заходняй Беларусі, станавіліся ахвярамі сталінскай рэпрэсіўнай сістэмы. У свой час у беларускім грамадстве даволі галосна абмяркоўвалася прапанова надання даце «17 верасня» святочнага статусу. Безумоўна, у верасні 1939 года адбылася лёсавызначальная падзея аб'яднання беларускіх зямель у адну дзяржаву. Аднак пры гэтым нельга забываць, якім чынам гэтае «аб'яднанне» адбывалася і колькі жыхароў Заходняй Беларусі, у тым ліку беларускага паходжання, трапілі ў спісы «ворагаў» савецкай улады і заплацілі сваім жыццём за геапалітычныя ігры Сталіна і Гітлера.

Аўтар выказвае шчырую падзяку Віталю Бядрыцкаму (Беларусь), Манке Серакоўскай (Францыя) і даследчыцкаму цэнтру «Карта» (Польшча) за прадастаўленыя архіўныя матэрыялы.

Свае меркаванні, а таксама інфармацыю па гісторыі сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гадах можна дасылаць на электронны адрас аўтара: katyn_blr@gazeta.pl

ДЫСКУСІЯ

# КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ КРАІНА?

Навуковец і публіцыст Віталь Воранаў прапанаваў рэдакцыі «Новага часу» серыю матэрыялаў для роздуму і дыскусіі па праблемах развіцця нашай краіны. Сваё першае эсэ ён так і назваў — «Quo vadis, patria?» — якое ёсць, па сутнасці, праграмнай прадмовай да заяўленай ім тэмы.

«Свой агляд я планую рабіць, — піша Віталь, — са стаўкай на еўрапейскую культуру дыскурсу, параўнанні з аналагічнымі з'явамі ў краінах, якія добра ведаю на ўласным досведзе: Польшча, Чэхія і ўвесь англамоўны, у шырокім разуменні гэтага слова, свет. Асноўны націск хацелася б зрабіць на сучасныя праблемы ў кантэксце палітыкі і культуры, менавіта з ухілам на будучыню (што, можна сказаць, адсутнічае ў нашым дыскурсе), а не гісторыю (чаго даволі шмат). У плане глабальным, хочацца пазмагацца з састарэлымі стэрэатыпамі, як унутры беларускамоўнай грамады, так і звонку».

Прапанова і два першыя эсэ спадара Віталя падаліся нам цікавымі. Прапануем іх вашай увазе, паважаныя чытачы, і ласкава запрашаем да дыскусіі.



Віталь ВОРАНАЎ

Віталь ВОРАНАЎ

## Quo vadis, patria?

**По розных прычынах, у асноўнай сваёй масе беларускае грамадства — як з аднаго боку барыкады, так і з другога — жыве, мяркуе і выказваецца па біпалярнай схеме мыслення: белае і чорнае, вораг і сябар, за і супраць, і гэтак да бясконцасці.**

Больш удумлівую частку грамадства (якая, зрэшты, ва ўсіх краінах знаходзіцца ў меншасці, і гэта натуральны стан) не трэба пераконваць у тым, што ў кожным аспекце жыцця апрача белага і чорнага ці не найболей шэрага. Пераконваць у гэтым трэба толькі большасць, якая ў глабальных пытаннях больш за ўсё схільная да таго, каб памыляцца. Так функцыянуе здаровая дэмакратыя, у якой кожны, нават самы недакранальны аспект грамадскага жыцця падлягае крытыцы, дыскусіі і, калі трэба, то таксама пераасэнсаванню.

Такая дыскусія сёння адбываецца паўсюль — ад Лісабона да Таліна. Еўропа незваротна наблізілася да мяжы, у якой неабходна знайсці адказ на пытанне, што рабіць з нацыянальнымі дзяржавамі ва ўмовах еўрапейскай інтэграцыі і сусветнай глабалізацыі. Гэтую дыскусію, у розных яе аспектах, спрабуюць перанесці і на беларускі грунт. Аднак ці магчымая паўнавартасная дыскусія ў непаўнавартасных умовах гульні?

Дэканструктарскія праекты, як гэтага і трэба было спадзявацца, завіталі ў Беларусь, не дачакаўшыся завяршэння працэсу канструявання самой Беларусі. Сёння мы ўсё часцей задаемся пытаннем, ці патрэбны нам яшчэ беларускі нацыяналізм.

Найлепей гэтая дыскусія адлюстраваная на прыкладзе спрэчак пра моўную палітыку ў Беларусі. Беларускамоўная частка грамадства, якая, часта памылкова, мае тэндэнцыю лічыць сябе больш прагрэсіўнай, усё з большай рэгулярнасцю задаецца пытаннем пра патрэбу акцэптацыі рускамоўнага складніку сваёй культуры, гісторыі і літаратуры. Рускамоўныя пісьменнікі ў Беларусі ўсё часцей намагаюцца заняць сваё месца ў каноне беларускай літаратуры. Беларускамоўныя мысляры штораз агучваюць думку пра неабходнасць існавання не тое што двюхмоўнай Беларусі, але і трох, і шматмоўнай. Паколькі моўнае пытанне ў Беларусі — ці не самы фундаментальны аспект закранутай праблемы, то варта да яго прыгледзецца бліжэй.

Ці не даводзілася вам (звяртаюся перш за ўсё да беларускамоўнай часткі насельніцтва) сустракацца з сітуацыяй, калі вы здзіўляліся, што беларускамоўны суразмоўнік аказваўся дрэнным чалавекам, з якім вам зусім не па дарозе?

У аднамоўным грамадстве разуменне таго, што людзі, якія размаўляюць на адной мове, не заўжды падзяляюць аднолькавыя інтарэсы, прыходзіць натуральна і амаль што незаўважна. Аднак як часта ў беларускай прасторы мы чуем да болю наіўнае выказванне тыпу: «Мне бліжэй беларускамоўны чужынец, чым рускамоўны беларус»? Беларускамоўнаму беларусу вельмі складана і проста ілагічна ўсведамляць, што на свеце могуць быць людзі, якія будуць размаўляць з ім на адной мове, у іншых, чым бескарысных, ці, скажам, нават шкодніцкіх мэтах.

Ці не трапляе ў ступар большасць беларускамоўных, калі чуюць ад іншых беларускамоўных напады на беларускія каштоўнасці, класікаў, гістарычныя падзеі і г.д.? Як у такім выпадку патлумачыць чалавеку з біпалярнай схемай мыслення, што беларускамоўны чалавек можа выкарыстоўваць мову як прыладу для прасоўвання сваіх, спрэчных з ягонымі, інтарэсаў? Як давесці, што беларускамоўны таксама можа быць звычайным шкоднікам, адданым камуністам, апантаным фашыстам, агентам чужых спецслужбаў ці, скажам, тыпам псіхалагічнага саманенавісніка або паталагічным прадстаўніком ультраэгаістычнага мыслення, для якога дабро агулу — гэта абстрактная, а часам нават варожая ідэя? Якім спосабам давесці, што беларускамоўны можа ў адной меры быць як маніпулятарам, такі і маніпуляваным? Нярэдка пастаноўка такой праблемы — гэта надзвычай складаная справа.

Ва ўмовах, калі большасць беларускамоўнага грамадства не валодае базавымі паняццямі, то дыскусія пра фундаментальныя асновы становіцца амаль немагчымай, аднак тое, вядома, не азначае, што такія пытанні не будуць насільвацца і множыцца. У большасці выпадкаў праекты па знішчэнні беларускай ідэі (як, напрыклад, «заходнерусізм», цудоўна апісаны Аляксандрам Цвікевічам) крочылі з ёю побач яшчэ да пачатку яе з'яўлення.

У наш час паўстаюць і будуць працягваць нараджацца таксама новыя дэканструктарскія праекты, якія падпарадкаваныя глабальным з'явам і працэсам. Зацікаўленыя колы не будуць чакаць завяршэння канструкцыі, паколькі незавершанасць нацыянальнага праекту дае ім пэўную перавагу.

Любы іншы аднамоўны народ лепш за беларусаў падрыхтаваны да таго, каб бараніць сваё, і гэта не заўжды звязана з плюсамі аднамоўнага грамадства, але з глыбейшым разуменнем розных недаасэнсаваных у двюхмоўных краінах аспектаў. У білінгвістычных жа грамадствах гэтыя праблемы больш падатлівыя да таго, каб трапіць у пастку біпалярнага мыслення.

Усё гэта азначае, што прыхільнікам і апалагетам беларускай ідэі трэба з яшчэ большай пільнасцю ставіцца не толькі да старых, але і да новых дэканструктарскіх праектаў, з яшчэ большай увагай адсочваць іх, аналізаваць і своечасова адказваць сваім апанентам. Дык што, пачнём?

## Я за двухмоўе, how about you?

Паводле дадзеных апытання, зладжанага «Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў» у верасні 2009 года, усяго толькі пятая частка (19,8%) беларусаў выступала за наданне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай. Пераважная большасць рэспандэнтаў схілялася да захавання двухмоўя. Пры гэтым толькі «за рускую» прагаласавала б 15% рэспандэнтаў, а толькі «за беларускую» — 19,8%. Асабіста я ані ў сацыялагічныя апытанні, ані ў нацыянальныя перапісы, асабліва зробленыя на нашай прасторы, не надта веру (тут шмат залежыць ад умелай пастаноўкі пытання). Аднак не сумняваюся ў тым, што вынікі дадуць глебу для працягу спрэчак паміж прыхільнікамі і ненавіснікамі беларускай мовы. Адны будуць казаць: «Нас на 500 тысяч болей, чым вас. Жыве Беларусь!» Другія адкажуць: «Дайте нам ещё десять лет. Следующая перепись покажет». У гэтай спрэчцы ўжо шмат гадоў губляецца самае галоўнае — час.

Наш свет разагнаўся да такой хуткасці, што для таго, каб не выпасці з арбіты на першым павароце, трэба навучыцца прымаць вельмі хуткія і правільныя рашэнні. Нельга цешыць сябе надзеяй, што ў эпоху выварнай глабалізацыі «малыя» мовы захаваюць свой папярэдні статус, выстаяўшы ў змаганні з мовамі імперый. Рэальная задача-максімум «малых» моваў — гэта захаванне статус-кво. Поспех у выкананні задачы будзе залежаць ад абранай тактыкі. Можа, яшчэ не позна зразумець, чаму партызанскі атрад ідзе ў адкрыты бой выключна ў выпадку пагрозы поўнага знішчэння.

Беларусь — двухмоўная краіна: вось ужо на працягу некалькіх стагоддзяў мы пастаянна гаворым на лаціне, па-польску, па-нямецку, па-руску. У гэтым плане наш народ не з'яўляецца ані выключным, ані абраным. Па ўсёй Еўропе, не згадваючы нават пра іншыя кантыненты, шмат якія народы традыцыйна двухмоўныя, а некаторыя — нават шматмоўныя. Досвед шматмоўнасці ёсць і ў БССР у 1920-х — 1930-х гадоў. І калі нам пачынае здавацца, што ў гэтым плане мы самыя «ненармальныя», то трэба прыгадваць, што білінгвальнае насельніцтва планеты складае каля 60–75%.

Пра тое, што родную мову ведаць трэба, спрачацца будзе мала хто, аднак застаецца пытанне, якой павінна быць другая мова. Чаму, апрача беларускай, мы павінны аддаваць перавагу мове суседкі? Гэта калісьці сілу краіны вызначалі моцнае войска і колькасць штыкоў, але сёння лічыцца ў асноўным не столькі хуткасць, колькі ўжо дасягнуты ўзровень мадэрнізацыі. Колькасць насельніцтва і плошча тэрыторыі не маюць у гэтым плане першаснага значэння. Магчыма, таму, хаця шмат хто гэта прадказваў, кітайская мова так і не стала мовай сусвету. У Беларусі, у якой адзіны значны рэсурс — гэта людзі, магчымасць мадэрнізацыі хаваецца перш за ўсё ў валоданні мовай заможнай большасці. Аргумент пра тое, што мы павінны ведаць мову навукі, медыцыны, тэхналогіі слушны, аднак мы забыліся пра тое, што мова, пра якую гаворка, — англійская. Мы, вядома, маглі б паспрабаваць перакласці ўсё на беларускую мову, але баюся, што, як і перакладчыцкі корпус Еўрапарламента, маглі б не ўгнацца за актуалізацыямі. Пакуль мы б наблізіліся да паловы, то веды ў навуцы, медыцыне і тэхналогіі пабагацелі б таксама напалову. Працей усё ж будзе вывучыць мову арыгіналу, а не выконваць сізіфаву працу. Чым раней мы гэта пачнём, тым меншай энергіі нам будзе каштаваць мадэрнізацыя. Трэба мець на ўвазе, што рана ці позна мы будзем вымушаныя мадэрнізавацца. У такой сітуацыі падтрымліваць мову беднай суседкі стане немэтазгодна. Па-першае, на адных сантыменах рабіць гэтага беларусы не стануць, па-другое, хутчэй за ўсё, рускія самі з часам стануць двухмоўным грамадствам, і размаўляць нам з імі можна будзе па-англійску.

Памятаеце анекдот пра шматмоўнага, двухмоўнага, і амерыканца? Сёння нават амерыканцы не ў стане дазволіць сабе быць аднамоўным грамадствам, і ўсё больш актыўна (тут парадыгма дзейнічае ў адвароты бок) яны засвойваюць іспанскую — мову беднай суседкі. Але мы — не амерыканцы, мы сабе такое дазволіць не можам.

ФОРУМ

# КАНГРЭС ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На жаль, у апошні час гістарычная навука Беларусі перажывае не найлепшыя часы. Выпрацаваная ў пачатку 1990-х гадоў нацыянальная гістарыяграфічная канцэпцыя пазней была перагледжана і падпала жорсткай крытыцы з боку афіцыйных ідэолагаў.**

Пасля 1994 года новае кіраўніцтва Беларусі пачало вяртаць савецкі погляд на беларускую мінуўшчыну, што праявілася ў замоўчванні і выключэнні з падручнікаў шматлікіх аспектаў нацыянальнай гісторыі, у тым ліку і гісторыі сталінскіх рэпрэсіяў у 1930-х гадоў мінулага стагоддзя.

У апошні час у Беларусі ўскладнілася жыццё тых маладых навукоўцаў, якія вырашылі абараніць кандыдацкія і доктарскія дысертацыі па гісторыі. Шмат прац адпраўляюць на так званую «дапрацоўку». Карэкціроўцы падвяргаецца і тэматыка прац. У фаворы «славянскае адзінства», а вось «польска-літоўскія» сюжэты падвяргаюцца жорсткай крытыцы. Аднак нягледзячы ні на што беларускія навукоўцы-гісторыкі працягваюць рабіць усё, каб не дапусціць дэградацыю гістарычнай навукі ў Беларусі. І ў гэтай справе вялікую ролю адыграў новы навуковы форум «Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі», які ўжо другі год запар праводзіцца на базе Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне (Літва). Галоўным арганізатарам кангрэса з'яўляецца Інстытут палітычных даследаванняў «Палітычная сфера».

Адразу адзначу, што падчас кангрэса абмяркоўваецца не толькі гістарычная праблематыка, але і шмат іншых тэм. Напрыклад, вялікая ўвага нададзена перспектывам развіцця кінематографа ў Беларусі, беларускай літаратуры, аспектам рэлігіязнаўства. Аналізуюцца таксама перспектывы развіцця грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне, а таксама магчымасці двухбаковых стасункаў Беларусі з іншымі дзяржавамі свету.

Аднак найбольш вялікі блок секцыяў, прадстаўленых на Другім кангрэсе даследчыкаў Беларусі, быў прысвечаны менавіта разгляду гісторыі нашай краіны. І гэта не выпадкова, бо на форум прыехала вялікая колькасць гісторыкаў-беларусістаў з усяго свету, у тым ліку з Беларусі, Украіны, Малдовы, Расіі, Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Японіі. Мне давялося папрацаваць каардынатарам адной з найбольш цікавых секцый: «Мадэрнізацыя, сацыяльныя і палітычныя пераўтварэнні: Беларусь у ХХ ст.». Пагадзіцеся, мінулае стагоддзе стала па сутнасці лёсавызначальным для нашай краіны.



Менавіта ў першай яго палове наш народ абудзіўся ад доўгай «спячкі» і паспрабаваў самастойна вырашыць свой лёс. Аднак праект пад назвай Беларуская Народная Рэспубліка не ўдаўся, а найлепшая частка беларускай нацыі — інтэлігенцыя — вымушана была шукаць замежных хаўруснікаў дзеля арганізацыі беларускай нацыянальнай справы. Адны павінны былі прыстасоўвацца да рэалій, пануючых у Другой Рэчы Паспалітай, другія спрабавалі рэалізавацца ў незалежнай Чэхаславакіі, трэція вымушаны былі жыць ва ўмовах бальшавіцкай жалезнай заслоны. Усе гэтыя аспекты яскрава дэманструюць нацыянальную трагедыю, праз якую вымушаны былі прайсці беларусы ў гады паміж дзвюма сусветнымі войнамі.

Два дні плённай працы, тры панелі, 18 дакладаў, ажыўленыя дыскусіі і абмеркаванні. Беларуская, руская, польская, літоўская, англійская мовы. Пасля заканчэння працы ў секцыі мне асабіста падумалася, што такія цікавыя гістарычныя дыскусіі павінны праходзіць у прысутнасці значна большай колькасці маладых беларускіх навукоўцаў і студэнтаў. Беларуская моладзь павінна глыбей унікаць у навуковыя падыходы замежных калег, звяртаць увагу на менш вывучаныя аспекты нацыянальнай гісторыі, развіваць свае камунікатыўныя здольнасці і веды замежных моваў. Без гэтай міжнароднай працы не магчыма развіццё гістарычнай навукі ў нашай краіне.

У гэтым кантэксце варта ўзгадаць пра праблемы, з якімі сустракаюцца сённяшнія беларускія даследчыкі. Усіх удзельнікаў кангрэса абурыла звальненне з пасады выкладчыка Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта гісторыка Андрэя Чарнякевіча. Гэты выпадак нагадаў пра сумнавядомыя савецкія часы, калі адбываліся рэпрэсіі супраць людзей з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй.

Дарэчы, адкрываць кангрэс павінен быў яшчэ адзін гродзенскі гісторык Сяргей Токць. Але ў Коўна даследчык не прыехаў. Звязана гэта было ўсё з тым жа, на жаль, сумнавядомым падручнікам «Гродназнаўства» і са скандалам вакол яго. Многія ўдзельнікі кангрэсу з Беларусі ў прыватнай гутарцы гаварылі, што адміністрацыя ВНУ папярэджвала аб непажаданасці іх ад'езду на навуковы форум у Літву. Некаторым наўпрост казалі: «Даездзішся».

Дзіўна ўсё гэта бачыць у XXI стагоддзі, тым больш, што Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі ў Коўна — гэта выключна навуковае мерапрыемства, у якім не трэба шукаць нейкай палітычнай крамолы. У прыватнай размове са мной госці з Польшчы шкадавалі, што гэты кангрэс адбываецца не ў Мінску, таму што ў такіх мерапрыемствах павінна ўдзельнічаць больш даследчыкаў менавіта з Беларусі. Але маем, што маем.

Літоўскія арганізатары навуковага форуму паспрабавалі зрабіць усё, каб яго ўдзельнікі засталіся задаволенымі знаходжаннем у Коўне. Навукоўцы жылі ў лепшых ковенскіх гатэлях, а пасяджэнні па секцыях адбываліся ў абсталяваных па апошніх словах тэхнікі сучасных аўдыторыях Універсітэта Вітаўта Вялікага. Увогуле, з кім бы ні размаўляў — з палякам, беларусам, расіянінам, ці ўкраінцам; кандыдатам, доктарам, магістрам; загадчыкам кафедры ці простым выкладчыкам — усе засталіся задаволеныя ўдзелам у гэтым навуковым форуме. Асабіста варта падзякаваць дырэктару Цэнтра Ч. Мілаша Універсітэта Вітаўта Вялікага, доктару Русцісу Камунтавічусу і старшыні арганізацыйнага камітэта кангрэса, дырэктару Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» Андрэю Казакевічу за плённую працу ў арганізацыі кангрэса.

Тэзісы выступленняў удзельнікаў гэтага навуковага мерапрыемства будуць апублікаваны ў выглядзе асобнага зборніка навуковых работ. Дарэчы, выданне кнігі запланавана на наступны год, акурат перад пачаткам трэцяга кангрэса. Што ж, будзем працаваць і рабіць усё для развіцця айчыннай гістарычнай навукі.

КНІГІ

# СЛОНІМСКІЯ ПАДМУРКІ

**У выдавецтве «Кнігазбор» выйшла манаграфія літаратара і краязнаўца Сяргея Чыгрына «Слонімскія падмуркі».**




Выданне ўнікальнае, прысвечанае Слонімшчыне, яе гісторыі і помнікам, а таксама знакамітым людзям, якія адтуль родам.

Падобнага выдання пра Слонім у Беларусі яшчэ не было. Шматгадовая праца аўтара вяртае чытачоў у Слонім Льва Сапегі, Міхала Казіміра Агінскага, у Слонім 1812 і 1863 гадоў, у час Першай і Другой сусветных войнаў.

Даследчык цікава піша пра падзеі, якія не абміналі Слонімшчыну ў 1920–1930-х, пра людзей, якія там жылі, працавалі, змагаліся за родную мову і незалежнасць Беларусі.

Шпрачытаюць артыкулы пра жыццёвы і творчы шлях Валянціна Таўлая, Кандрата Лейкі, Сяргея Дарожнага, Лукаша Дзекуць-Малея, Генрыха Мілачэўскага, Анатоля Іверса, Якуба Міско, Міхаіла Міско, Алега Лойку і іншых больш вядомых і менш вядомых слонімцаў.



Прадмову да кнігі напісаў доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. У кнізе Сяргея Чыгрына «Слонімскія падмуркі» змешчаны 106 старых і рэдкіх фотаздымкаў, многія з якіх надрукаваны ўпершыню.

АНОНС

# :B:N: ПРЭЗЕНТУЕ НОВЫ АЛЬБОМ

**Бярозаўская легенда року «:B:N:» нарэшце выпусціла новы альбом.**

Музыкі кажуць, што ён быў гатовы яшчэ ўвесну, але яны вырашылі прытрымаць яго да традыцыйнага восеньскага канцэрту ў Мінску. Паслухаць альбом можна ўжо зараз, ён выкладзены ў інтэрнэт адмыслова перад канцэртам.

Прэзентацыя новай плыткі пачнецца а 19-й гадзіне 10 кастрычніка ў клубе «RE:PUBLIC». Разграваць музыкаў будзе малады рэп-гурт «PANaNieba».

На прэзентацыі «:B:N:» зайграе ўвесь новы альбом ды шмат старых хітоў.

Кошт квіткоў:

50 000 — першыя 100; 60 000 — астатнія папярэдне; 70 000 — у дзень канцэрту, танцпол; 80 000 — месца




за столікам + кампакт-дыск ад БМАgroup у падарунак!

Кропкі продажу квіткоў: клуб RE:PUBLIC; пераход на Я.Коласа; пераход каля ГУМа; ГЦ Купалаўскі, 19 кропка; ГЦ Рыга, 18 кропка.

Інтэрнэт-продажы — kvitki.by, ticketpro.by

Даведкі: 029-6490888, 033-3091137.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81. novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1015

Падпісана да друку 05.10.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.